


# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

ШАЯ ЛЬНАЯ ГОДА 15

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

27 снежня 2019 года №52 (1287)

18+


# Вясёлага Новага года!

Фота забяспечанае Вольгай ЖАРСКАЙ.

## Дзяды Марозы праз вокны раздавалі падарункі дзецям у бальніцы. Сярод святочных герояў быў прамысловы альпініст з Вілейкі

старонка 5




ISSN 1991–7155





Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Анты-Новы год: 10 спосабаў зэканоміць на зімовых святах

**Штогод мы абяцаем сабе, што ўжо гэта свята дакладна будзе асаблівым, і наперадзе чакае толькі лепшае. Гэта прымушае нас траціць шмат грошай на тое, што не будзе мець сэнсу ўжо 1 студзеня.**



Фота legko.com.

Для навагодняга настрою трэба няшмат. Часам дастаткова фантазіі і крыху часу. І не спатрэбіцца ні капейкі грошай!

Мы сабралі 10 спосабаў, як навагоднія святы правесці з карысцю і зэканоміць. А грошы, якія атрымаецца зберагчы, аддаць на тое, чаго даўно хацелі.

### Як стварыць настрой без лішніх затрат

Упрыгожаная ёлка – частка абавязковага навагодняга рытуалу. Калі бачыш на паліцах бліскучыя шарыкі і гірлянды, то складана не паддацца спакусе. Аднак у выніку набягае сур'ёзная сума на рэчы, без якіх лёгка можна абысціся.

**Некаторыя лічаць, што і пластыкавая, і жывая ёлкі – не самы лепшы выбар і з пункту гледжання экалогіі, і эканоміі. А каб стварыць каляндны настрой, можна зрабіць ёлку з падушак, кніг ці іншых прадметаў.**

Развесьце гірлянду на сцяне, прынясіце некалькі сасновых галінак. Выдатна створаць настрой эфірныя алеі і спецыі – карыца і ваніль. А вялікае блюда мандарынаў дасць і пах, і карысныя вітаміны.

### Шукайце бясплатныя сувеніры

Часам складана стрымаць сябе ад пакупкі цацак і сувеніраў у форме або з выявай сімвала года. Але часцей за ўсё гэтыя падарункі становяцца смеццем праз некалькі дзён. Калі хочаце аддаць даніну сімвалу, няхай гэта будуць практычныя рэчы.

Але і тут можна зэканоміць. Прыгожыя каляндарыкі і іншую прадукцыю, прысвечаную надыходзячаму году, многія кампаніі раздаюць бясплатна як прамапрадукцыю. Банкі, буйныя кампаніі раздаюць прома не толькі буйным кліентам, але і звычайным карыстальнікам паслуг. Гэта добры спосаб прынесці карысныя рэчы ў дом, якія будуць дадаваць навагодняга настрою. Рэчы з прыгожым дызайнам смела дарыце, няхай і ў вашых блізкіх будуць карысныя сімвалы года.

### Паўзарплаты на ўбор? Не!

Многія святкуюць Новы год у кампаніі, і тады асноўным выдаткам становіцца ўбор. Для жанчын гэта яшчэ большая бяда. Манікюр, прычоска, прафесійны макіяж і, вядома, новая сукенка – усё гэта цалкам можа пацягнуць на паўзарплаты.

Замест прыгожай прычоскі на некалькі дзён зрабіце ў цырульні стрыжку з укладкай, якая будзе трымацца месяц. Замест таго, каб аддаваць грошы за макіяж, паглядзіце некалькі відэа з урокамі, як зрабіць патрэбны твар.

Дамоўцеся з кампаніяй прыйсці ў касцюмах. І няхай гэта будзе камплект з таго, што ўжо ёсць у вашым гардэробе. Дадайце крыху фантазіі, і адзенне набудзе зусім іншае гучанне.

### Спісы працуюць безадказна

Да кожнага свята неабходна рыхтавацца шмат. Утрымаць усё ў галаве няпроста. Калі вы ў спешцы забягаеце ў магазін, то звычайна набіраеце многа лішняга. Пазбегнуць гэтага можна толькі адным спосабам: складайце спіс патрэбных прадуктаў, спраў і задач, якія трэба набыць ці выканаць.

Гэты спосаб падаецца банальным, ды толькі да таго моманту, пакуль ім не карыстацца. Самае галоўнае тут – не адыходзіцца ад спіса, таму што гэта лёгка забярэ значную частку грошай з кашалька.

### Вам трэба менш ежы, чым вы думаеце

Дзве гарачыя стравы, тры салаты, бутэрброды і нарэзкі – вы, праўда, думаеце, што ў сілах усё гэта з'есці за адну ноч? Раскрыю вам праўду: не. Ежы вам трэба нашмат менш, чым звычайна выстаўляюць на стол. А даядаць наступныя пару дзён рэшткі – не самае добрае для вашага страўніка. Таму калі вы хочаце паставіць на стол два салаты, лепш пастаўце адзін. Для другога падрыхтуйце прадукты, сам жа салат зрабіце на наступны дзень.

### Меню з адных прадуктаў

Яшчэ адзін спосаб зэканоміць – абярыце стравы, для якіх неабходныя падобныя прадукты.

**Зрабіце мяса пад сырнай скарынкай, абярыце і салату або бутэрброд з сырам. Некалькі прадуктаў, што перакрыжоўваюцца – і вы ўжо добра зэканомілі.**

Паспрабуйце скласці меню, у якім, па-першае, вы ўбачыце складнікі, а па-другое, колькі з'есць кожны чалавек. І атрымаецца, што на сям'ю з чатырох чалавек дастаткова ўдвая менш, чым вы разлічвалі.

### А можна ўвогуле не гатаваць!

Такога павароту вы, пэўна, і не чакалі. Але менавіта гэта дапаможа вам зэканоміць не толькі на грашах, але і на часе.

Можна заказаць піцы або набыць паўфабрыкаты ў магазінах са сваім кулінарным цэхам. Пагрэлі ежу, з'елі – і свет не перакуліўся ад таго, што стол не ломіцца ад страў.

### Падарункі з клопатам

Калі вы змаглі стрымаць сябе ад неразумных растрат у папярэдніх пунктах, то ваш бюджэт на падарункі можа нечакана вырасці. Але і тут не варта губляць галавы. У падарунках важна паказаць клопат і тое, наколькі чалавек для вас важны. Таму часам адна раздрукаваная фатаграфія каштуе больш, чым дарагая тэхніка.

Падарыце чалавеку не проста рэч, а развіццё – ідэальным падарункам стане сертыфікат на курсы, пра якія даўно марыць. Замежная мова, бізнес або, напрыклад, майстэрства макіяжу – гэта не проста падарунак, гэта магчымасць пачаць Новы год па-новаму ў прамым сэнсе слова.

### Падарожжы

Паспрабуйце знайсці час для навагодняга падарожжа. Зусім неабавязкова ляцець у Лапландыю, каб адшукаць цуд. Некалькі гадзін прагулкі ў вілейскім лесе або прагулка ў цішыні можа даць нашмат больш і пры гэтым амаль нічога не каштаваць.

### Узнагародзьце сябе

Калі вы разумна абышліся з бюджэтам, у вас павінна застацца пэўная сума. Падумайце пра падарунак для сябе. Магчыма, варта ўкласці грошы ў самае дарагое – у здароўе. Здаць аналізы або прайсці ўльтрагукавое даследаванне – можа быць выдатным пачаткам новага года – з клопатам аб сабе.

Гэтыя парады дапамогуць вам не проста зэканоміць, а рацыянальна падысці да свята. Няхай гэта будзе пачаткам сапраўды нечага новага і чароўнага!

**Эмілія ХВОЯ.**



Так цяпер выглядае вакзал.



Гледачы на адкрыцці.



Алег Бегунец уручае сімвалічны ключ Юрыю Лазару.

# У Вілейцы адкрылі абноўлены аўтавакзал

## Такога маштабнага рамонту тут не было 35 год

ВІЛЕЙКА

**20 снежня ў Вілейцы пасля рэканструкцыі адкрылі абноўлены аўтавакзал.**

35 год таму яго пабудавалі, і з гэтага часу вакзал не бачыў вялікага рамонту. А цяпер у яго прывабны знешні выгляд, зала чакання на 40 месцаў плошчай каля двухсот квадратных метраў, сучасныя платформы, тэрмінал, пакой маці і дзіцяці, абноўленыя касы і службовыя памяшканні, электроннае табло.

**Ёсць камфартабельная прыбіральня і плацежна-даведачны тэрмінал, дзе пасажыр зможа набыць білет.**

Будынак абсталяваны пандусамі. Каля аўтавакзала з'явіўся сквер з лаўкамі.

**Ёсць і свабодная плошча. Яе плануюць здаваць для аптэкі і цырульні, падзяліўся дырэктар Вілейскага аўтапарка Уладзіслаў Усцюшэнка.**

На адкрыцці прысутнічалі вілейчукі і ганаровыя госці – намеснік старшыні Мінаблвыканкама **Сяргей Неўмяржыцкі**, гендырэктар Мінаблаўтатранса **Уладзімір Федаровіч**, дырэктар упраўлення капітальнага будаўніцтва Вілейскага раёна **Аляксандр Крупскі**, старшыня Вілейскага райвыканкама **Алег Бегунец**. Сімвалічны ключ ён уручыў дырэктару аўтавакзала **Юрыю Лазару**.

Намеснік старшыні Мінаблвыканкама Сяргей Неўмяржыцкі ў вітальным слове адзначыў:

– Рэканструяваць вакзал мы вырашылі прыкладна паўтара года таму.

**Як тэатр пачынаецца з вешалкі, так Вілейка цяпер будзе пачынацца з новага сучаснага вакзала.**

А Уладзімір Федаровіч заўважыў, што рамонт патрэбны быў вельмі даўно. На яго думку, знаходзіцца пасажырам і работнікам у такіх умовах больш было немагчыма.

**Мінаблвыканкаму і будаўнікам падзякаваў старшыня Вілейскага райвыканкама Алег Бегунец.**

Вілейскія артысты аздобілі адкрыццё спевамі, ля вакзала курсіраваў святочны аўтобус. А дырэктар Вілейскага аўтапарка **Уладзіслаў Усцюшэнка** правёў экскурсію па новым вакзале.

**Нагадаем, што на рэканструкцыю аўтавакзал зачынілі летам. Пад касы часова прыстасавалі стары аўтобус. Вакзал рэканструявалі ў рамках інвестыцыйнай праграмы з бюджэту вобласці.**

На рэканструкцыю выдзелілі больш за два мільёны рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 19.12 | 26.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1062 | **2.0962** |
| Еўра | 2.3449 | **2.3227** |
| Злоты, 10 | 5.4961 | **5.4446** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3644 | **3.3733** |
| Грыўня, 100 | 8.9976 | **9.0155** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **18.12** | **24.12** |
| Еўра | 2.3300/2.3520 | **2.3150/3.3350** |
| Долар ЗША | 2.0980/2.1150 | **2.0900/2.1080** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 18.12 | 24.12 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,29 | **3,40** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,24 | **7,44** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,90 | **6,15** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,90 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,90** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,75 | **1,75** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,10 | **2,10** |
| Агуркі, 1 кг | 2,95 | **4,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,55 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 3,80 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 4,80 | **5,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Ананас, 1 шт. | – | **12,00** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,00 | **6,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Гранат, 1 кг | 3,50 | **4,30** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,80** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 6,50 | **4,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,80 | **1,90** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Міліцыя змагаецца з незаконным алкаголем

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 9 снежня да 13 студзеня на Маладзечаншчыне праводзяць комплекс мерапрыемстваў па супрацьдзеянні нелегальнаму абароту фальсіфікаванай кантрафактнай алкагольнай прадукцыі і спіртаўтрымальнай вадкасці.

Як адзначыў начальнік АБЭЗ **Дзмітры Жартун**, асноўная задача – перакрыць каналы незаконнага ўвозу алкагольнай прадукцыі, а таксама спыніць факты нелегальнага яе вырабу, разліву, захоўвання і рэалізацыі.

**Гэта прадукцыя сумнеўнай якасці, таму небяспечная для здароўя насельніцтва. Як правіла, фальсіфікаваны і кантрафактны алкаголь у краіну трапляе з Расіі.**

Цэнавая даступнасць такіх напояў часам з'яўляецца ключавым фактарам. Да таго ж, рэалізацыя «дублікатаў элітнага алкаголю» негатыўна адбіваецца на дзейнасці айчынных вытворцаў.

Мерапрыемствы па выяўленні каналаў пастаўкі нелегальнага алкаголю даюць вынікі. У верасні маладзечанскія праваахоўнікі канфіскавалі буйную партыю кантрафакту. 28-гадовы індывідуальны прадпрымальнік абсталяваў у мікрааўтобусе ў грузавым адсеку тайнік, у якім перавозіў шэсцьсот літраў 95-працэнтнага этылавага спірту і 12 бутэлек гарэлкі «Нафта», не маркіраванай беларускімі акцызамі. У выніку мужчына пазбавіўся тавару коштам 13,5 тысячы рублёў і быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці па арт. 12.27 КаАП Рэспублікі Беларусь.

Нагадаем, што калі ўсталююць факт незаконнага захоўвання, гандлю, вытворчасці, а таксама перамяшчэння алкагольных напояў чалавекам, які не з'яўляецца ІП, пагражае штраф ад 255 да 5 100 рублёў з канфіскацыяй напояў, абсталявання, сыравіны і матэрыялаў, якія выкарыстоўваюцца для іх вырабу (артыкул 12.27 КаАП Рэспублікі Беларусь).

Маладзечанскі РАУС звяртаецца з просьбай да грамадзян інфармаваць аб фактах незаконнага абароту алкагольнай прадукцыі ў аператыўна-дзяжурную службу па тэлефонах **8 (029) 753-99-40** альбо **102**, а таксама па адрасе: **Маладзечна, вуліца Галіцкага, 23**. Атрыманую інфармацыю праверацъ. Канфідэнцыяльнасць гарантуецца.

**Юлія КРУК, афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС.**

## З'ехаў на заробкі і знік

МАЛАДЗЕЧНА

**У міліцыю Маладзечна па дапамогу звярнулася 73-гадовая гараджанка. Жанчына распавяла, што 1 снежня яе сын паехаў на заробкі ў Расію, у горад Адзінцова, і больш не выходзіў на сувязь.**



Па словах пенсіянеркі, 33-гадовы мужчына працаваў рабочым на будоўлі.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС шукаюць 33-гадовага **Дзівакова Віталя Леанідавіча**. Аператыўнікі высветлілі, што 3 снежня мужчына паведаміў калегам аб вяртанні на радзіму, пасля чаго знік. Да цяперашняга часу месцазнаходжанне маладзечанца невядомае, паведамляюць у прэс-службе Маладзечанскага РАУС.

**Прыкметы:** рост каля 174 сантыметраў, худы, блакітныя вочы, прамыя цёмна-русыя валасы, кароткая стрыжка, памер абутку 45.

**Асобыя прыкметы**: шнар на пераноссі, шнар каля пяці сантыметраў на грудзях.

**На момант знікнення быў апрануты** ў карычневую куртку ніжэй за пояс, цёмна-сінія джынсы і чорныя чаравікі на шнурках.

Міліцыя просіць грамадзян, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **8(029)546-40-44, 8(033)381-52-90, 8(0176)58-05-61** ці ў бліжэйшы аддзел міліцыі на лінію **«102»**.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота з сайта гімназіі №6.

Сярод «замініраваных» гімназій Маладзечна была і шостая.

# «Замініравалі» тры школы і гімназію

## Падазраюць 50-гадовага мясцовага жыхара

МАЛАДЗЕЧНА

**21 снежня гэтага года на лінію «102» паведамілі аб магчымым выбуху ў чатырох школах у Маладзечне.**

Праваахоўнікі эвакуіравалі 24 вучняў і двух настаўнікаў. Падчас праверкі выбухованебяспечных прадметаў не знайшлі.

Міліцыянеры ўстанавілі асобу, якая тэлефанавала з мабільнага тэлефона. Гэта непрацуючы 50-гадовы мясцовы жыхар.

Калі мужчыну затрымлівалі, ён быў нецвярозы. У яго зафіксавалі больш за 1,9 праміле алкаголю ў выдыхнутым паветры, паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Маладзечанскія следчыя распачалі крымінальную справу па частцы 1 арт. 340 (заведама ілжывае паведамленне аб небяспецы) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Дома ў яго правялі агляд і іншыя першапачатковыя следчыя дзеянні.

Падазраваны растлумачыў, што патэлефанаваў з ілжывымі паведамленнямі, бо доўга піў.

У дачыненні да мужчыны прызначылі судова-псіхіятрычную экспертызу. Канчатковую ацэнку яго дзеянням дадуць па выніках расследавання.

Следчыя ў чарговы раз нагадваюць, што ў адпаведнасці з часткай 1 артыкула 340 Крымінальнага кодэкса за загадзя ілжывае паведамленне аб небяспецы прадугледжанае пазбаўленне волі тэрмінам да пяці гадоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Каменным Логу ў расіянкі знайшлі дуэльны пісталет

АШМЯНЫ

Гаспадыня патлумачыла, што гэты пісталет патрэбны як рэквізіт у тэатры.

17 снежня ў пункце пропуску «Каменны Лог» памежнікі ў іншамарцы «Вольва» на заднім сядзенні знайшлі прадмет, знешне падобны да капсульнага дуэльнага пісталета.

Аўтамабіль, якім кіравала 40-гадовая жыхарка Масквы, заязджаў па «зялёным» калідоры з Літвы. Уладальніца машыны патлумачыла, што працуе сцэнарыстам у тэатры і пісталет з'яўляецца сцэнічным рэквізітам.

Прадмет канфіскавалі для правядзення экспертызы. Па дадзеным факце пачалі праверку.

**Паводле Дзяржпагранкамітэта.**

## Электрычка збіла насмерць жанчыну на станцыі Уша

МАЛАДЗЕЧНА

Трагічны выпадак здарыўся каля 16:20 у нядзелю, 22 снежня.

Адбылося смяротнае траўмаванне на станцыі Уша.

Год нараджэння жанчыны і іншыя падрабязнасці пакуль не паведамляюць.

Матэрыялы справы знаходзяцца ў Следчым камітэце, паведаміў інспектар АУСТ Маладзечанскага райаддзела міліцыі **Сяргей Васілеўскі**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Цягнік пратараніў фуру ля станцыі Пруды

МАЛАДЗЕЧНА

22 снежня ў 05:26 у МНС паступіла паведамленне аб дарожна-транспартным здарэнні на 848 кіламетры чыгуначнага перагону Турэц-Баяры паблізу станцыі Пруды Маладзечанскага раёна.

Высветлілася, што на неахоўным чыгуначным пераездзе сутыкнуліся грузавы цягнік і цягач «МАН», які ехаў з Літвы ва Узбекістан. Аўтамабіль перавозіў вадкі поліўрэтан для мэблевай вытворчасці.

У выніку ДТЗ пацярпелых няма. Але поліўрэтан разліўся на плошчы каля трохсот квадратных метраў. Работнікамі МНС сумесна з дарожнымі службамі праводзіліся работы па ачыстцы дарожнага палатна.

На кароткі час затрымалі цягнікі «Гудагай – Мінск» і «Санкт-Пецярбург – Калінінград».

**Паводле сайта МНС.**

## Мужчыну збіла машына каля Крэва. Ён загінуў на месцы

СМАРГОНЬ

У суботу каля 7 вечара мужчына прыехаў са Смаргоні ў Крэва на аўтобусе. Выйшаў у вёсцы і адправіўся ўздоўж трасы пешшу ў суседні населены пункт.

На скрыжаванні дарог грамадзянін стаў пераходзіць праезную частку па-за пешаходным пераходам і ў гэты час яго збіў аўтамабіль «Рэно-Дастар».

Ад атрыманых траўмаў пешаход памёр на месцы ДТЗ.

**Паводле ДАІ Гродна.**

# Дзяды Марозы праз вокны раздавалі падарункі дзецям у бальніцы

## Сярод святочных герояў быў прамысловы альпініст з Вілейкі

ВІЛЕЙКА

**23 снежня прамысловыя альпіністы зладзілі навагоднюю акцыю ў дзіцячым рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры хірургіі.**

Каля дваццаці Дзядоў Марозаў і Снягурка падняліся па сценах пяціпавярховага будынка і ўручылі дзецям у палатах падарункі. Адным з Дзядоў Марозаў быў ураджэнец Вілейкі прамысловы альпініст **Дзмітры Субач**.

Зрабіць такую акцыю хлопцы вырашылі яшчэ ўвосень, калі ў касцюмах супергерояў мылі вокны ў дзіцячым хоспісе.

– Цяжкавата было знайсці спонсараў для гэтага мерапрыемства. Звярталіся да сваіх буйных заказчыкаў. Нялёгка было слухаць адмовы, але ўрэшце спонсараў мы знайшлі, – дзеліцца хлопец.

Узгадніўшы дзеянні з кіраўніцтвам бальніцы, прамысловыя альпіністы ў касцюмах Дзядоў Марозаў рушылі па сценах будынка. А сярод 20 дзядоў была адна Снягурачка – альпіністка **Юлія Гірыч**, сяброўка Дзімы.

Сярод дзяўчат таксама ёсць прамысловыя альпіністкі. Я ведаю трох, – кажа суразмоўца.

Праз вокны маленькія пацыенты Цэнтра хірургіі атрымоўвалі ласункі. Па словах Дзімы, рэагавалі па-рознаму. Хтосьці радаваўся, хтосьці саромеўся. Асабліва Снягурачка зацікавіла ўсіх. Было шмат ахвотных дакрануцца да яе і патузаць за блакітнае ўбранне.

– А здаралася і такое: заскочыш у палату і бачыш, што дзіця радуецца табе, але пасля некалькіх аперацый проста сіл не мае выказаць гэту радасць, – дзеліцца хлопец.

> **У Дзядоў Марозаў-альпіністаў яшчэ засталіся і грошы, і ласункі ад спонсараў. Таму ў хуткім часе яны хочуць зрабіць падобную акцыю для дзяцей, хворых на ДЦП і аўтызм.**

Такія акцыі трошкі стамляюць, але і прыносяць вялікае задавальненне і ад зносін з дзецьмі, і ад сустрэчы з калегамі. Бо з іншымі прамысловымі альпіністамі бачуся радка, толькі падчас працы на буйных аб'ектах. Напрыклад, гандлёвы цэнтр «Арэна Сіці» або стадыён «Дынама».

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечанае героем публікацыі.

Дзмітры Субач і Юлія Гірыч у вобразах падчас святочнай акцыі.

# У політэхнічным каледжы будуць рыхтаваць мікрабіёлагаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета ў Маладзечанскім дзяржаўным політэхнічным каледжы з'явілася лабараторыя аналітычнай, фізічнай і калоіднай хіміі.**

Дзякуючы працы ў лабараторыі навучэнцы атрымаюць першасныя навыкі аналітычнага кантролю.

### Што такое глыбокая перапрацоўка збожжа

Як расказала намеснік дырэктара па вучэбна-метадычнай працы **Ала Кароль**, адкрыццё лабараторыі абумоўленае тым, што пад Смалявічамі будуецца Беларуская нацыянальная біятэхналагічная карпарацыя. З яе спецыялістамі каледж супрацоўнічае ад 2018 года.

У Маладзечна прыязджала намеснік генеральнага дырэктара карпарацыі **Надзея Каткавец**. Яна знаёмілася з матэрыяльнай базай, вучэбнымі планамі каледжа.

У карпарацыі будуць рабіць глыбокую перапрацоўку збожжа. Гэта значыць, з яго атрымаюць камбікармы і амінакіслоты.

– Такой вытворчасці ў Беларусі пакуль няма. З усіх краін на постсавецкай прасторы ёсць толькі адзін падобны завод у Расіі, – кажа Ала Кароль.

### Для чаго патрэбная амінакіслата

Амінакіслоты – вельмі дарагое рэчыва. Адзін кілаграм каштуе каля дзесяці тысяч рублёў. Вытворчасць заснаваная на жыццядзейнасці бактэрый трэцяга і чацвертага пакаленняў.

> **Для чаго патрэбная амінакіслата? Каб у арганізме чалавека і жывёл не было паталогій. Таму яе і дадаюць у камбікорм і некаторыя прадукты.**

Выпрацоўваць амінакіслоты будуць выпускнікі каледжа, якія цяпер вучацца па спецыяльнасці «Захаванне і перапрацоўка збожжа». Восенню 2020 года карпарацыя пачне працаваць. Дзесяць выпускнікоў абяцаюць узяць туды майстрамі ў цэхі. У Смалявічах для маладых спецыялістаў будуюць жыллё.



Навучэнцы працуюць у лабараторыі.

### Каго возьмуць у каледж на новую перспектыўную спецыяльнасць

А ў каледжы ад наступнага навучальнага года плануюць адкрыць новую спецыяльнасць – «вытворчасць біятэхналагічнай прадукцыі». База ўстановы адпавядае. У лабараторыях такое абсталяванне, што ёсць не на кожным харчовым прадпрыемстве.

Хапае і педагогаў. Ёсць каму выкладаць харчовую тэхналогію, аўтаматызацыю. У гэтым навучальным годзе ўзялі маладога спецыяліста, які мае спецыяльнасць «біятэхналогія».

Вытворчасці біятэхналагічнай прадукцыі пакуль вучаць толькі ў дзвюх вышэйшых навучальных установах – у БДУ і БНТУ. Ад 2020 года Маладзечанскі дзяржаўны політэхнічны каледж стане першай сярэдняй навучальнай установай у Беларусі, якая будзе даваць такую спецыяльнасць. Вельмі перспектыўную, дадае намеснік дырэктара.

Сярод навучэнцаў будуць рады бачыць і дзяўчат, і хлопцаў. Іх абяруць па конкурсе пасведчанняў аб базавай адукацыі. А ў ім па хіміі трэба мець не менш за чатыры балы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

УНП 601080133




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дача-Логан, 2010 г.в., 1461 куб. см, дызель. Шэры металік, універсал. 11800 рублёў. Т. (8-029) 3358731.*

• Форд-Мандэа, 1993 г, 1, 8 л., прабег 308 тыс. км, 2100 руб. Т. (8-029) 6617890.*

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773

• Дыскі-штампоўкі (жалеза) R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford Escort, 55 руб. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort 6 (1995-2000): дзверы ў зборы, капот, фара, заднія ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто легкавое, грузавое, бус. Можна аварыйныя. Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Першамайскай, 35 000 рублёў. Т. (8-029) 8785936, (8-029) 7620968.*

• 2-пакаёвая светлая кватэра ў Маладзечне з рамонтам і мэбляй у выдатным раёне, 51,1/28,5; 8,8; 6/9. Т. (8-029) 3997088.*

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом у в. Каралеўцы Вілейскага раёна, участак 47 сотак. Т. (8-029) 2519948.

• Дом у Маладзечне, 100 кв. м, 0,06 га, 2 газавыя катлы, хлеўчык, гараж, калонка ў двары. Т. (8-044) 5749372.

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважин) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Выраб персанальных календароў з фота – 8 руб. Ёсць гатовыя з відамі Смаргоні – 6 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Тел. (8-01592) 44717.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кубак з вашым фота – 9 руб. Ёсць кубак з відамі Смаргоні – 6 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т. (8-01592) 44717.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• **БАРАНЫ І АВЕЧКІ ПАРОДЫ ПРЭКОС ЖЫВОЙ ВАГОЙ, 4,50 РУБЛЁЎ ЗА 1 КГ. ВІЛЕЙСКІ РАЁН. Т. (8-029) 6769359.***

**Іншае**

• Агрэгат б/у АКМ-100 (халадон) для прысценных халадзільных вітрын пад вынасны холад. ІП Заянчкоўскі А.С. УНП 600370490 Т. (8-029) 6278076.

• Кафля старая польская для печкі. Т. (8-044) 7030445.

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |


Фота з суполкі Вілейскага дзяржаўнага каледжа ў сацсетках.

Дзяўчаты-пераможцы.

## Калекцыя адзення вілейскага каледжа – у пераможцах на міжнародным фэсце

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**У Маладзечне зладзілі І Міжнародны фестываль мастацтваў Open MoloFantasy – 2019.**

У ім паўдзельнічалі прадстаўнікі з Беларусі, Расіі, Украіны, Славеніі і Польшчы.

Конкурсная праграма праходзіла ў намінацыях: спевы, харэаграфія, інструментальная музыка, тэатральная творчасць, мастацкае слова і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.

Па выніках конкурсу, вілейскі каледж заняў другое месца ў намінацыі «Тэатр моды. Лепшая калекцыя адзення».

Дзяўчат з групы 2-18 рыхталі майстры вытворчага навучання **Таццяна Арцём** і **Алена Арловіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Як у святочныя дні студзеня будуць працаваць медустановы

Зацвердзілі графік работы арганізацый аховы здароўя Рэспублікі Беларусь у студзені 2020 года, паведамляюць у прэс-службе Міністэрства аховы здароўя.

**1, 2, 7 студзеня** – па графіку працы ў святочны дзень

**4 студзеня** – па графіку рабочага дня

**6 студзеня** – па графіку работы ў суботні дзень.

**Паводле прэс-службы Міністэрства аховы здароўя.**

## Хутка на БелАЭС завязуць ядзернае паліва

АСТРАВЕЦ

Ядзернае паліва завязуць на Беларускую АЭС у першым квартале 2020 года, паведаміў журналістам намеснік міністра энергетыкі Беларусі **Міхаіл Міхадзюк**:

– Вы ведаеце, гэта не панацэя – завезці ядзернае паліва, мы ўжо да завозу практычна гатовыя. Завязём яго за месяц-паўтара да пачатку фізічнага пуску, у першым квартале.

**Паводле БелТА.**

## Запрашаюць на Новы год у Навасады

ВІЛЕЙКА

30 снежня запрашаюць сустрэць Новы год у доме ля возера, што ў Навасадах Нарочкага сельсавета.

– Штогод мы атрымліваем навагоднія і калядныя падарункі. Але ёсць і тыя, хто такіх падарункаў не атрымлівае. Гэта жывёлкі ў лесе, – кажуць арганізатары.

Таму сустрэча сёлета не зусім звычайная. 30 снежня ў 13:00 усе ахвотныя збіраюцца ў Нарочы і кіруюцца ў бок Навасадаў.

Ідуць праз лес, па дарозе пакідаюць падарункі для жывёл – моркву, буракі, бульбу, сена, зерне.

**Аддзел інфармацыі.**

# «У макулатуру складаю нават каробачкі ад лекаў»

## Як праект Еўрасаюза паўплываў на жыццё сям'і з Вілейкі

ВІЛЕЙКА

**У снежні ў Вілейцы завяршылі праект «Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай». Ці палепшыў гэты праект жыццё гараджан? Як адбіўся на жыцці адной канкрэтна сям'і?**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Падчас акцыі па зборы старога электраабсталявання.

Віляйчанка **Вольга Шляпо** ў праектнай дзейнасці даўно. У праекце па ЖКГ была інфармацыйным менеджарам па рабоце з насельніцтвам. Сачыла за працай суполкі «Укантакце», ладзіла там акцыі і конкурсы, супрацоўнічала з прэсай, у тым ліку і з «Рэгіянальнай газетай». Такая ўцягнутасць у праект адбілася на жыцці Вольгі і яе сям'і.

– Канешне, мой светапогляд вельмі памяняўся, – кажа суразмоўца. – З'явілася шмат ведаў пра ўплыў клімату, перапрацоўку другасных рэсурсаў. Экалагічныя звычкі сфарміраваліся ў дзяцей і ў мужа, хоць ён ужо дарослы чалавек.

### Кухня можа быць без пластыку

Вольга прызнаецца, што на яе кухні ўжо няма пластыкавага посуду, кантэйнераў. У сям'і стараюцца карыстацца толькі шклом. Пацыху забываюцца і пра тэфлонавыя патэльні:

– Так, яны зручныя і лёгкія, аднак вельмі шкодныя і для нас, і для экалогіі. Таму я перайшла на чыгунныя. Хай цяжкія, але бясшкодныя, – кажа гаспадыня.

Таксама на кухні ў сям'і Шляпо стала менш сінтэтычных мыйных сродкаў. Посуд стараюцца мыць выключна содай. А для таго, каб мыць вокны, ёсць воцат. Вольга запэўніла, што ён выдатна адмывае шкло. І на яго няма алергіі.

Калі жанчына ідзе ў краму, то абірае пральны парашок і іншыя гігіенічныя сродкі з экалагічнай маркіроўкай. На выключна натуральныя рэчывы замест шампуню Вольга яшчэ не перайшла, але эксперыментуе і з кефірам, і з мёдам.

– Калі была на адной з канферэнцый, даведалася, што грунтавыя воды і глебу найбольш забруджвае бытавое смецце. А менавіта адходы ад аўтамыек, з каналізацыі. Таму стараюся мінімізаваць мыйныя сродкі ў быце.



Фота Дзяніса ЗЕЛЯНКО.

Вольга Шляпо.




Фота Вольгі ШЛЯПО.

Такія кантэйнеры для паасобнага збору смецця з'явіліся ў Вілейцы дзякуючы праекту.

Сям'я сартуе смецце. Ёсць некалькі пакетаў – для пластыку, паперы, шкла і для агульнага смецця. Па словах Вольгі, і агульнае смецце за мяжой сартуюць больш дэталёва. Там ёсць асобны кантэйнер для ўпакоўкі. У Беларусі ж пакуль такога няма.

А што з лекамі, у якіх сышоў тэрмін прыдатнасці. Іх у сям'і пакуль не выкідаюць. Проста збіраюць у спадзеве на тое, што ў бальніцах і паліклініках некалі з'явяцца кантэйнеры, куды можна будзе іх выкінуць без шкоды навакольнаму асяроддзю.

– У краму хаджу з торбай з тканіны, – працягвае Вольга. – Калі атрымліваецца, што торбы няма, куплю прадуктаў менш, каб не браць пакет.

Жанчына кажа, што сям'я ва ўсім падтрымлівае яе. Тут важна выхоўваць асабістым прыкладам, лічыць яна. Калі дзеці бачаць, што мама сартуе смецце, і ў іх не падымецца рука закінуць пластыкавую бутэльку ў агульнае смецце.

Бонусам да экалагічнага светапогляду стала знаёмства з людзьмі, якія вядуць экалагічна сяброўскі лад жыцця.

### Што атрымаў горад ад праекта

У рамках праекта ў сацсетцы «Укантакце» стварылі Інфацэнтр аб працы камунальных службаў. Мясцовыя жыхары цяпер могуць даведвацца пра навіны ЖКГ, абмяркоўваць балючыя тэмы, задаваць пытанні экспертам. Для школ і арганізацый выпусцілі шмат каляровых буклетаў, плакатаў, налепак на кантэйнеры для паасобнага збору смецця.

На грошы праекта набылі больш за дзвесце кантэйнераў для паасобнага збору, кантэйнеры для небяспечных адходаў, лінію прасавання і цюкавання пластыку, вілачны пагрузчык, смеццявоз. У канцы лістапада на тэрыторыі ЖКГ урачыста адкрылі пляцоўку для часовага захоўвання адходаў электрычнага і электроннага абсталявання і іншых другасных матэрыяльных рэсурсаў.

Вольга перакананая, што пра поспех рэалізацыі праекта можна меркаваць па тым, што пасля яго застанецца Вілейчыне і яе жыхарам. А калі так, то праект «Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай» можна лічыць паспяховым.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Праект «Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай»

Праект ладзілі ў Вілейскім і Іўеўскім раёнах. Тэрміны рэалізацыі: 1 жніўня 2016 – 1 жніўня 2018. Бюджэт: 702 699,87 еўра. Уклад ЕС 632 429,88 еўра.

Арганізацыяй-выканаўцай выступіла Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Экапраект», партнёрамі – Вілейскі райвыканкам, Іўеўскі райкам, Беларускае таварыства абароны спажыўцоў, Баварскае агенцтва навакольнага асяроддзя.

Прачытаць аб праекце і мерапрыемствах, што ладзіліся ў яго межах, можна на сайце Прадстаўніцтва Еўрасаюза, на сайце rh.by, у суполцы «Інфармацыйны цэнтр аб працы камунальных службаў» «Укантакце».



*Артыкул падрыхтаваны ў межах сумеснага праекта з EU Neighbours East «Свой край: партрэты». Погляды, выяўленыя ў тэксце, належаць выключна аўтару артыкула.*



# тэлетыдзень

**30 снежня 2019 г.– 5 студзеня 2020 г.**

Перадрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Фільмы, якія трэба паглядзець у навагоднюю ноч



Фота kinopoisk.ru

Кадр з фільма «Вечары на хутары паблізу Дзіканькі».

**Новы год ужо хутка, таму «Рэгіянальная газета» прапаноўвае чытачам лепшыя фільмы, якія трэба паглядзець у ноч на 1 студзеня.**

### «Іронія лёсу, або З лёгкай парай»

Быццам бы ўсе кажуць: «Ды колькі можна глядзець адно і тое ж больш за чвэрць стагоддзя...». Але варта пераключыць канал на гэты фільм, і магія яго захоплівае і не дае глядзець іншае. Што гэта – звычка, магія Новага года або немагчымасць адарвацца ад геніяльнага тварэння? Замежная актрыса, якая стала роднай, цудоўныя песні на вершы лепшых паэтаў, любоў і надзея на невядомае пакуль шчасце – гэта і ёсць тое самае кіно «Іронія лёсу».

### «Вечары на хутары паблізу Дзіканькі»

Савецкая экранізацыя твора Гогаля перадае атмасферу самабытнага ўкраінскага сяла з усімі ўласцівымі яго жыхарам якасцямі: уменнем гуляць з размахам, пачуццём гумару, песнямі і танцамі на народных святах. Гэта па-сапраўднаму вясёлая, казачная і захапляльная гісторыя аб прыгажуні Аксане, кемлівым кавалі Вакулу, няўдачлівай нячыстай сіле і шумным свяце Калядаў.

### «Марозка»

Знакамітая кіноказка Аляксандра Роў, якая з фальклорным каларытам распавядае павучальную гісторыю. Жылі добры стары са сварлівай і ўладнай старой. У старога была свая дачка – сціплая прыгажуня Насцечка, а ў старой свая – зайздросніца Марфушка. Аднойчы ў лесе Насцечка сустракае Івана, але ганарлівасць і грубасць сыгралі з ім злы жарт: вядзьмак робіць твар Івана мядзведжай мордай. Такім ён застанецца, пакуль не навучыцца рабіць добрыя справы. Злая старая загадвае старому ў разгар лютай зімы адвезці Насцечку ў лес і пакінуць там. І вось, ужо ледзь не акалелай, дзяўчына сустракае Марозку.

### «Карнавальная ноч»

Камедыйны музычны фільм Эльдара Разанава «Карнавальная ноч» доўгі час быў навагодній карцінай №1. У 1956 годзе гэта гісторыя стала лідарам савецкага кінапракату. Напярэдадні Новага года, калі работнікі Дома культуры ўжо гатовыя запусціць ідэальную забаўляльную праграму, у творчы працэс умешваецца таварыш Агурцоў, прызначаны выканаўцам абавязкаў дырэктара. Праграма яму не падабаецца катэгарычна, і ён вырашае замяніць «легкадумныя» нумары на «сур'ёзныя» выступленні. Аднак бойкая моладзь мае цвёрды намер абвесці зануду вакол пальца.

### «Са мной вось што адбываецца»

Месца дзеяння – сучасная перадавагодняя Масква. 31 снежня, сталіца Расіі паралізавана шматкіламетровымі заторамі, у якіх у кожнага ёсць час падумаць пра ўсё, што важна. На адной з дарог у адной з машын аказваюцца менеджар Арцём, яго брат Валянцін, які прыехаў з Валгаграда паказаць маскоўскаму прафесару вынікі аналізаў іх хворага бацькі. «Са мною вось што адбываецца» – гэта працятая меланхоліяй гісторыя трохі пра адзіноту ў вялікім мітуслівым горадзе, трохі пра вымотвальную працу, якая падмяняе сабой сапраўднае жыццё, і зусім трохі пра каханне.

Падрыхтавала
Настасся УТКІНА.



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 30 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.05, 18.55, 21.05, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«МИА И БЕЛЫЙ ЛЕВ».**
**9.20, 19.00** Х/ф **«РЕНУАР».**
**10.20** Д/с «Китайский Новый год».
**10.50 Муз/ф «Красавица и чудовище».**
**13.05, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.00** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.10** «Мульт-парад».
**15.20** Х/ф **«НОВАЯ СКАЗКА».**
**16.45** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.35** Х/ф **«КАВКАЗСКАЯ ПЛЕННИЦА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«РЫЦАРЬ ДНЯ».**
**23.15** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК НА ЛУНЕ».**

**ВТОРНИК, 31 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 16.25, 20.00, 22.10, 4.20** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «В некотором царстве».
**7.40** «Юморинка».
**7.45** Х/ф **«ГУСАРСКАЯ БАЛЛАДА».**
**9.35** Х/ф **«РЕНУАР».**
**10.35** Д/с «Китайский Новый год».
**11.00** Х/ф **«ИРОНИЯ СУДЬБЫ, ИЛИ С ЛЕГКИМ ПАРОМ!».**
**14.10** «Мульт-парад». «12 месяцев».
**15.05** Х/ф **«КАРНАВАЛЬНАЯ НОЧЬ».**
**16.30** «Мульт-парад». «Гринч».
**18.00** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ БОГАТЫРЬ».**
**20.05** «Вечарніца».
**20.15** Х/ф **«ОДНИ ДОМА».**
**22.15** Х/ф **«БИТВА МАГОВ».**
**0.15** «Вечерний квартал-95».
**2.40** Х/ф **«БРИЛЛИАНТОВАЯ РУКА».**

**СРЕДА, 1 ЯНВАРЯ**

**7.00, 14.25, 19.45, 21.05, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт- парад «Холодное приключение».
**8.20** Х/ф **«ДЕВЧАТА».**
**10.00** Х/ф **«ОДНИ ДОМА».**
**11.55** Х/ф **«ЧАРОДЕИ».**
**14.30** «Мульт-парад».
**16.15** Х/ф **«ОТЧАЯННЫЕ ЧЕРЕПАШКИ».**
**19.50** Т/с **«ДЕТЕКТИВ РЕНУАР».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«СЛУЖЕБНЫЙ РОМАН».**
**23.50** Х/ф **«СЛУЖЕБНЫЙ РОМАН. ПРОДОЛЖЕНИЕ».**

**ЧЕТВЕРГ, 2 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.35, 19.00, 21.05, 0.35** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«О ЧЕМ ЕЩЕ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**
**9.20, 19.05** Х/ф **«РЕНУАР».**
**10.10** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.30** Х/ф **«ЩЕЛКУНЧИК».**
**12.15** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**13.45, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.35** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.40** «Мульт-парад».
**16.10** Х/ф **«НЕ В ДЕНЬГАХ СЧАСТЬЕ».**
**17.40** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**18.25** «Готовь как шеф».
**18.50** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЧУДО».**
**23.00** Х/ф **«ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**

**ПЯТНИЦА, 3 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.50, 19.00, 21.05, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.10, 16.00** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.55** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ МАЛЕНЬКОГО МЕДВЕЖОНКА».**
**9.15, 19.05** Х/ф **«РЕНУАР».**
**10.10** Д/с «Китайский Новый год».
**10.30** Х/ф **«ЧУДО».**
**12.20** Х/ф **«ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**
**14.00, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.30** «Короткое замыкание».
**18.15** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЕСТЬ ВОПРОСЫ?».**
**22.50** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ».**

**СУББОТА, 4 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.10, 18.55, 21.10, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «Элиот».
**8.35** Х/ф **«ЗА БОРТОМ».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**11.00** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ».**
**13.35** Х/ф **«НЕ В ДЕНЬГАХ СЧАСТЬЕ».**
**15.15** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Анастасия».
**16.50** Х/ф **«РАЗВОД НАДЕРА И СИМИН».**
**19.00** Х/ф **«ВОСЕМЬ ПОДРУГ ОУШЕНА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.15** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ИЛИ МЕЧТА».**
**23.25** Х/ф **«ЗАГАДОЧНОЕ УБИЙСТВО».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 5 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.10, 19.10, 21.05, 0.20** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «Зверопой».
**9.00** Х/ф **«ЕЩЕ ОДНА ИСТОРИЯ О ЗОЛУШКЕ».**
**10.30** «Готовь как шеф».
**11.00** «Законы привлекательности».
**11.45** Х/ф **«ВОСЕМЬ ПОДРУГ ОУШЕНА».**
**13.30** Х/ф **«ЗАГАДОЧНОЕ УБИЙСТВО».**
**15.15** «Смотрим всей семьей». «Покемон».
**17.10** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.15** Х/ф **«О ЧЕМ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«НАЧНИ СНАЧАЛА».**
**22.40** Х/ф **«БЛОНДИНКА В ЗАКОНЕ».**



## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 30 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**9.00** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**10.25** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ. В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМИ».**
**12.35, 14.40, 18.00, 22.15** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ».**
**15.00** Новости БЖД.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ПЕРЕПОЛОХ».**

**ВТОРНИК, 31 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.15, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25, 22.15** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС».**
**15.10** Х/ф **«11 ДРУЗЕЙ ОУШЕНА».**
**17.10** Х/ф **«МАМЫ».**
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«ЕЛКИ ПОСЛЕДНИЕ».**

**СРЕДА, 1 ЯНВАРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00** Новости: время местное.
**7.20, 9.50, 12.50** Наши дети.
**7.35** Мажорный лад.
**8.20** Х/ф **«САДКО».**
**10.00** Х/ф **«ИРОНИЯ СУДЬБЫ».**
**13.00** Х/ф **«ЕЛКИ 5».**
**14.50** Х/ф **«ЕЛКИ НОВЫЕ».**
**16.10** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ПЕРЕПОЛОХ».**
**19.20** Рядом со звездами.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.40** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙ, ПАПА, НОВЫЙ ГОД!».**

**ЧЕТВЕРГ, 2 ЯНВАРЯ**

**6.30** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**8.10** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС».**
**9.50** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**11.10, 12.50, 18.00** Наши дети.
**11.20** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**12.40, 18.10** Афиша.
**13.00** Х/ф **«ВСЕГДА ГОВОРИ «ДА».**
**14.10** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ДИК И ДЖЕЙН».**
**18.25** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС».**
**20.35** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС: ИГРА ТЕНЕЙ».**
**22.45** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 3 ЯНВАРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00** Х/ф **«НА МОРЕ!».**
**8.35** Х/ф **«ПУТЕШЕСТВИЕ ГЕКТОРА В ПОИСКАХ СЧАСТЬЯ».**
**13.00** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**14.20** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**15.50** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**17.30** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.20** Рядом со звездами.
**20.20** Наши дети.
**22.20** Мажорный лад.

**СУББОТА, 4 ЯНВАРЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30, 19.20** Будьте здоровы.
**13.00** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПАДДИНГТОНА».**
**14.45** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПАДДИНГТОНА 2».**
**16.25, 21.20** Новости БЖД.
**16.50, 22.20** Мажорный лад.
**17.50** Наши дети.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 5 ЯНВАРЯ**

**6.30** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ».**
**8.05** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**10.00** Х/ф **«САДКО».**
**11.25** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**13.15** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**14.40** Х/ф **«СУПЕРМЕНЕДЖЕР, ИЛИ МОТЫГА СУДЬБЫ».**
**16.15** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА».**
**18.15** Х/ф **«РАЗБОРКИ В СТИЛЕ КУНГ-ФУ».**
**19.45** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ТАРИФ».**
**21.30** Х/ф **«СВОДНЫЕ БРАТЬЯ».**

## Беларусь 1

**6.55** Маршрут построен.

**7.25** Х/ф **«НЕЗНАКОМКА В ЗЕРКАЛЕ».**

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15, 15.55** «Все за стол!».

**11.00, 12.10** Х/ф **«КЛУБ ОБМАНУТЫХ ЖЕН».**

**14.30** Кулинарная дипломатия.

**15.10** Вокруг планеты.

**16.35** Х/ф **«ВИРАЖИ СУДЬБЫ».**

**19.55** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«ГАЛИНА».**

## Беларусь 2

**7.00** Приключенческая анимация «Шахерезада: Нерассказанные истории».

**8.15** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**9.05, 19.40** Телебарометр.

**9.05** «Секретный миллионер». Социальное реалити-шоу.

**10.05** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**10.50** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.55** «Мир наизнанку. Бразилия». Трэвел-шоу.

**12.50** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-МУРАВЕЙ И ОСА».**

**14.40** Х/ф **«МОЙ ДРУГ ДЕД МОРОЗ».**

**16.00** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.40** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.10** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ПАССАЖИРЫ».**

**23.05** Приключенческий фильм-фэнтези «Большой и добрый великан».

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.50, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Утаймавальніца тыграў». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.30** «Беларуская кухня». Квас на мясе або грыбах з ільняным насеннем.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Звычайны цуд». Мастацкі фільм.

**14.10** «Малыш и Карлсон», «Карлсон вернулся». Мультфільмы.

**15.10** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**15.45** «Тры таўстуны». Мастацкі фільм.

**17.15** «О бедном гусаре замолвите слово». Мастацкі фільм.

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан». Мастацкі фільм [СТ].

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** Х/ф **«ЗА ВИТРИНОЙ УНИВЕРМАГА».**

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ФИНИСТ-ЯСНЫЙ СОКОЛ».**

**11.10** «Видели видео?».

**13.10** Премьера. «Практика». Новый сезон.

**15.05** «Повтори!». Пародийное шоу.

**16.20** «Повтори!». Пародийное шоу Продолжение.

**17.25** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**18.45** «Пусть говорят».

**20.00** «Контуры».

**21.20** Т/с **«ЗЕЛЁНЫЙ ФУРГОН».**

**23.20** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.40** «Старые песни о главном. Постскриптум».

## СТВ

**6.00** «Ванга. Продолжение».

**8.10, 11.05, 13.40, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.50** «Минтранс».

**10.30** «Большой город».

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**15.25, 16.40** Т/с **«ОХОТНИКИ ЗА БРИЛЛИАНТАМИ».**

**19.30** «Неделя».

**22.15** «Неделя спорта».

**22.45** «Засекреченные списки».

**0.15** «Анекдот Шоу с Вадимом Галыгиным».

## Мир

**6.00** Х/ф **«МЕСТЬ И ЗАКОН».**

**9.30** «Как в ресторане. Как в Японии».

**10.05** Х/ф **«ДЕТИ ДОН-КИХОТА».**

**11.30** Х/ф **«ГДЕ НАХОДИТСЯ НОФЕЛЕТ?».**

**13.05** Х/ф **«ЖАНДАРМ НА ОТДЫХЕ».**

**15.00** Х/ф **«ПРИТВОРЩИКИ».**

**16.45** Х/ф **«МУЖЧИНА В МОЕЙ ГОЛОВЕ».**

**19.00** Новости.

**19.20** «Игра в кино».

**20.05** Х/ф **«ПОКРОВСКИЕ ВОРОТА».**

**22.40** Х/ф **«ДВЕНАДЦАТЬ СТУЛЬЕВ».**

**1.40** Х/ф **«НОЧЬ ОДИНОКОГО ФИЛИНА».**

**3.15** Х/ф **«ТАНЦУЙ, ТАНЦУЙ».**

**5.35** Мультфильмы.

## НТВ-Беларусь

**6.20** «Астропрогноз».

**6.25** Спорт-микс.

**6.35** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**7.00** «Тело человека».

**7.30** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.15** Наши.

**8.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**9.00** «Города Беларуси».

**9.25** «Врачебные тайны плюс».

**10.20** Главная дорога.

**10.50** «Еда живая и мёртвая».

**11.40** Квартирный вопрос.

**12.35** «Поедем, поедим!».

**13.25** Х/ф **«МОРСКИЕ ДЬЯВОЛЫ. СМЕРЧ».**

**16.20** За гранью.

**16.40** «Следствие вели…».

**19.25** Х/ф **«ПЁС».**

**21.15** Х/ф **«ФОРС-МАЖОР».**

**23.05** Премьера. «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.30** Т/с **«УЧАСТКОВЫЙ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** ПРЕМЬЕРА. «Начнем с утра!».

**8.15** Т/с **«МЕЖДУ НАМИ ДЕВОЧКАМИ».**

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.25** «Сто к одному».

**12.20** Т/с **«НИТИ СУДЬБЫ».**

**16.20** Анна Ковальчук в детективном телесериале «Тайны следствия».

**20.50** Т/с **«ДРУГИЕ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 14.45** День сурка. **8.20** Фрида. **10.55** Турист. **12.40** Джейн Эйр. **16.35** Девять ярдов. **18.25** Девять Ярдов 2. **20.10** Человек-паук. **22.20** Талантливый мистер Рипли. **0.50** Готика. **2.35** Чудо. **4.25** Иллюзионист.

### TV1000 ACTION

**7.00** Война Богов: Бессмертные. **9.10** Форсаж. **11.00** Двойной форсаж. **12.55** Тройной форсаж: Токийский дрифт. **14.40** Форсаж 4. **16.35** Форсаж 5. **18.55** Форсаж 6. **21.10** Терминатор 2: Судный день. **23.55** Противостояние. **1.30** Чёрная дыра. **3.15** Транссибирский экспресс. **5.10** Анаконда.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.55** Любовь-морковь 3. **8.45** Со мною вот что происходит. **10.05** Тёмный мир: Равновесие. **11.50** Три богатыря. Наследница престола. **13.20, 14.10, 15.00, 15.50, 16.40, 17.30** Ликвидация. **18.20** Праздник взаперти. **19.50** Бабушка лёгкого поведения. **21.20** Бабушка лёгкого поведения 2. Престарелые мстители. **22.55** Мой парень – Ангел. **0.40** Тариф Новогодний. **2.15** Женщины против мужчин. **3.45** Притяжение. **5.40** Территория.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.30, 10.00, 10.30, 11.00, 11.30, 12.00, 12.30, 13.00, 13.30, 14.00, 14.30, 15.00, 15.30, 16.00, 16.30, 17.00, 17.30, 18.00, 18.30** Скрипт-реалити «Гадалка». **19.00** Х/ф **«КАК ВЫЙТИ ЗАМУЖ. ИНСТРУКЦИЯ». 23.00, 0.00, 1.00, 2.00, 2.45, 3.30, 4.00** Т/с **«ВИКИНГИ». 4.45, 5.30** «13 знаков зодиака».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 9». 12.00, 13.00, 14.00, 15.00** Т/с **«ЛАБИРИНТ ИЛЛЮЗИЙ». 20.00, 21.00** Т/с **«ЗАКОН ОБРАТНОГО ВОЛШЕБСТВА». 22.00, 23.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ. ТАНЦЫ НА УГЛЯХ». 4.00, 5.00** Т/с **«САКВОЯЖ СО СВЕТЛЫМ БУДУЩИМ». 6.00, 7.00** Т/с **«АГЕНТСТВО НЛС 2».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.00** Х/ф **«ГИТЛЕР КАПУТ». 2.40** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ». 4.10** Х/ф **«РОБИН ГУД». 6.20** Х/ф **«АНАНАСОВЫЙ ЭКСПРЕСС: СИЖУ, КУРЮ». 8.10** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА». 10.05** Х/ф **«ВСЕГДА ГОВОРИ «. 11.50** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС». 14.05** Х/ф **«СВАДЕБНЫЙ ПЕРЕПОЛОХ». 15.55** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ». 18.05** Х/ф **«ЖИВОТНОЕ». 19.30** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ». 21.30** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ». 23.30** Х/ф **«УБОЙНЫЙ ОГОНЕК».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 0.55, 1.50** Лишний. **2.45, 3.50, 4.55** Каин. Исключение из правил. **5.50, 6.45** Консультант. **7.45** Шерлок: Безобразная невеста. **9.25** Шерлок: Этюд в розовых тонах. **11.10** Шерлок: Слепой банкир. **12.50** Шерлок: Большая игра. **14.30, 15.30, 16.15, 17.05** Черные кошки. **18.00, 18.50, 19.35, 20.25, 21.20, 22.05, 22.55** Ликвидация. **23.45** Крик совы.

### ВТВ

**6.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.00** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.15** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.45** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.05** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.25** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.55** Мультфильмы «ВОЛШЕБНАЯ КНИГА». **11.05** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.30** Т/с **«КУХНЯ. ВОЙНА ЗА ОТЕЛЬ». 14.10** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 15.25, 19.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **16.45** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ПЕРЕПОЛОХ». 18.10** Фэнтези «КРОЛИК ПИТЕР». **21.00** Х/ф **«НОВЫЙ ЧЕЛОВЕК-ПАУК». 23.20** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС». 0.45** Музыкальное шоу «НОВЫЙ ГОД, ДЕТИ И ВСЕ-ВСЕ-ВСЕ!». **3.55** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00, 16.20** Азбука спорта. **7.10** Игры «на вырост». **7.40, 10.10** Хоккей. Чемпионат мира. U-20. 1/2 финала. **9.40** На пути к Токио-2020. **12.10** Тренировочный день. **12.40** Художественная гимнастика. Baby Cup. **16.30** Овертайм. КХЛ. **17.00** Хоккей. КХЛ. Динамо-Минск – СКА (Санкт-Петербург). В перерывах Овертайм. КХЛ. **19.45** Легенды мирового спорта. **20.20** Слэмданк. **20.55** Спорт-центр. **23.30** Фактор силы.

### EUROSPORT

**0.00** Ралли-рейд. Дакар. **0.30** Горные лыжи. Кубок мира. Леви. Мужчины. Слалом. 2-я попытка. **1.15** Горные лыжи. Кубок мира. Бивер-Крик. Мужчины. Комбинация. Супергигант. 2-я попытка. **2.00** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-д'Изер. Мужчины. Слалом. 2-я попытка. **2.45** Горные лыжи. Кубок мира. Альта-Бадиа. Мужчины. Комбинация. Супергигант. 2-я попытка. **3.30** Горные лыжи. Кубок мира. Альта-Бадиа. Мужчины. Параллельный слалом-гигант. **4.15** Горные лыжи. Кубок мира. Бормио. Мужчины. Скоростной спуск. **5.00** Биатлон. Рождественская гонка. Германия. **6.30, 11.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Тур де Ски. Валь-ди-Фьемме. Мужчины и женщины. Спринт. **7.30, 10.00** Горные лыжи. Кубок мира. Загреб. Женщины. Слалом. 1-я попытка. **8.00, 10.30** Горные лыжи. Кубок мира. Загреб. Женщины. Слалом. 2-я попытка. **8.30, 9.00, 9.30** Олимпийские игры. «Живые легенды». **12.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Турне 4-х трамплинов. Оберстдорф. HS 137. **13.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Турне 4-х трамплинов. Гармиш-Партенкирхен. HS 142. **14.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Турне 4-х трамплинов. Инсбрук. Мужчины. HS 128. **15.05, 21.30** Лыжные гонки. Кубок мира. Тур де Ски. Валь-ди-Фьемме. Женщины. 9 км. Свободный стиль. **16.00, 22.30** Горные лыжи. Кубок мира. Загреб. Мужчины. Слалом. 1-я попытка. **17.10, 22.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Тур де Ски. Валь-ди-Фьемме. Мужчины. 9 км. Свободный стиль. **18.00, 20.40, 23.50** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Турне 4-х трамплинов. Бишофсхофен. Мужчины. HS 142. Квалификация. **19.45, 23.00** Горные лыжи. Кубок мира. Загреб. Мужчины. Слалом. 2-я попытка.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Тест на «Драйве». **6.30, 7.00, 15.25, 16.00** Сити тестер. **7.30, 7.40** Куда уходит детство. **7.50** Автовинтаж. **8.25, 16.35, 17.10, 17.40, 18.15, 18.50** От Кавказа до Аравии. **9.00** Наезд! **9.10** Комплектация. **9.45** Норильск Диксон. Есть рекорд! **10.15, 10.30, 19.20, 19.40, 22.40, 22.55, 0.30, 0.45, 2.55, 3.10** Работяги. **10.50, 19.55, 23.15, 1.00, 3.25** Хорошо забытое. **11.10, 20.15, 23.35, 1.15** Покорители Азии. **11.40, 20.50, 0.10, 1.45, 4.10** Легенды автопрома. **11.55** «Здесь был «Драйв». **12.55, 13.25, 13.55, 14.25, 14.55, 2.00, 2.25** Это Родина твоя. **21.05, 4.25** Резьба по стали. **21.40, 4.50** Вечер с Пикуленко. **22.20, 5.30, 5.45** Тайный покупатель. **3.40** Возвращение легенды.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.35, 8.25, 9.15** Большое рыболовное состязание. **10.00** Речные чудовища. **10.50, 11.40, 12.30, 13.15, 14.05, 14.50** Дикая Монтана. **15.40** Охотники на морских ежей. **16.25, 17.10, 18.00, 18.45, 19.30, 20.20, 21.05, 21.55, 22.40, 23.25, 0.15** Австралийские золотоискатели. **1.00, 1.50, 2.45, 3.30, 4.20, 5.10** Выживание в лесу.

### HISTORY

**6.25, 7.15** Мифические существа. **8.25** Невероятные изобретения. **8.55, 4.25, 5.10** Мифы и чудовища. **9.50, 10.45, 11.40, 12.35, 13.30, 14.25** Загадки Египта. **15.20, 15.50, 16.15, 16.45, 17.10, 17.40, 18.10, 18.35, 19.05, 19.30, 19.55, 20.25, 1.45, 2.15** Родовые проклятья. **20.50, 21.55** История без прикрас. **23.00, 23.55, 0.50** Загадочные убийства: нацисты. **2.40, 3.35** Запретная история. **5.55** Швы времени.

### NATURE

**6.00, 12.55, 13.20, 13.50** Уличный ветеринар. **6.25** Мир природы: повелитель летучих мышей из Мексики. **7.20, 8.15** 24 часа на Земле. **9.10, 10.05, 11.05, 19.45** Тайная жизнь слонов. **12.00** Суперветеринар. **14.15** Ветеринар из глубинки. **15.00** Мир природы: морж – двухтонный клыкач. **15.55, 16.55, 17.50** Львиная страна: ночь и день. **18.50** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **20.40** Огромные звери: последние из великанов. **21.35** Суровая Австралия. **22.25** Земля больших кошек. **23.20, 0.40, 1.30** Жуткие, настоящие и странные. **0.15, 5.30** Природа в кадре. **2.20** Анатомия крупнейших животных. **3.10, 3.55, 4.40** Дикие штучки с Домиником Монаганом.

### NATONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.35** Научные глупости. **7.30, 8.15, 9.00** Больше чем фокусы с Ди Эм Си. **9.45, 10.30, 11.15** Европа с высоты птичьего полета. **12.05, 12.50, 13.35** Суперсооружения: чудеса инженерии. **14.20** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **15.55** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **18.55, 19.45** Путешествия с Гордоном Рамзи. **20.30** Гений. **0.50** Спасти Титаник: сокровища с глубины. **1.35, 2.20** Авто – SOS. **3.10, 4.00** Эвакуация Земли. **4.45** Расследования авиакатастроф.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 2.10** Камский спиннинг. **6.25, 12.55, 17.00, 20.00, 23.35, 2.35** Охота по-фински. **7.00, 13.25, 0.10, 3.05, 5.00** Рыболовное путешествие с чемпионом. Беларусь. **7.25, 14.00, 18.00, 0.40, 3.35** Пофестивалим! **7.55, 14.30, 18.30, 21.35, 1.05, 4.05** Мир рыболова. **8.25, 14.55, 19.00, 22.05, 1.40, 4.30** Территория льда. **8.55, 22.35** Беларусь: в поисках хорошего клева. **9.30, 12.40, 5.45** Охотничья и рыболовная кухня. **9.45, 10.15, 16.00, 16.25** Охота и рыбалка в. **10.50, 23.05** Охота в Приволжье. **11.20** Люди дикого севера. **12.05** Рыбалка сегодня. **12.25, 5.30** Самогон. **15.30, 17.30, 19.30, 20.30** Фишермания. **21.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.00, 14.05, 18.05, 22.00, 2.10** Дома на деревьях. **6.45, 10.45, 14.50, 18.50, 22.45, 2.50** Кухня народов СССР. **7.00, 11.05, 15.10, 19.05, 23.00, 3.20** Беспокойное хозяйство. **7.30, 11.35, 15.40, 19.35, 23.30, 3.50** Профпригодность. **8.00, 12.05, 16.10, 20.05, 0.00, 4.15** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.30, 20.25, 0.20, 4.35** Дачные хитрости. **8.35, 12.40, 16.45, 20.40, 0.40, 4.50** Высший сорт. **8.50, 13.00, 17.05, 20.55, 0.55, 5.05** Дачных дел мастер. **9.25, 17.35** Огород круглый год. **9.40** Огород круглый год. **13.35, 21.25, 1.25, 5.30** Секреты стиля. **1.55** С пылу с жару. **3.05** Травовед.

# Дрэва ад Васіля Быкава і перамога віляйчанкі на чэмпіянаце Еўропы

## Што прыносілі гады Пацука на Вілейшчыну

ВІЛЕЙКА

**Працягваем успамінаць, што прыносілі ў рэгіён ранейшыя гады Пацука. І сёння прыгадаем Вілейку.**

### 1924

Вілейка, як і ўвесь рэгіён, ад 1921 года – у складзе Польшчы. Тут з'явілася першая брыгада польскага Корпуса аховы памежжа. Месца выбралі адмыслова. На поўначы праходзіла мяжа з Латвіяй, на ўсходзе – з СССР а за некалькі дзясяткаў кіламетраў на захад – з Літвой.

У горадзе з'явілася школа для унтэр-афіцэраў. Спецыяльна для аховы мяжы ў Вілейцы рыхтавалі сапёраў.

У мясцовай гімназіі Генрыка Сянкевіча малюнак выкладае мастак пачынальнік плыні ўнізму ў мастацтве **Уладзіслаў Страмінскі**.

У Вязыні пачалі будаваць вадзяны млын. А яшчэ ад 1924 года пачынаецца гісторыя метэаралагічных назіранняў у Вілейцы.

### 1936

У Вілейскай гімназіі Генрыка Сянкевіча атэстат сталасці атрымалі 22 вучні. З іх – 15 гарадскіх, шэсць – сялянскіх і адзін – сын памешчыка.

А дзякуючы нашаму чытачу Кастусю Шыталю, мы даведаліся пра тое, як у 1936 годзе ў Вілейцы гандлявалі хрушчамі, або майскімі жукамі. Кастусь знайшоў адпаведны тэкст у «Куфэрку віленскім» за 1936 год. «У пачатковай школе ў Вялейцы акцыя змагання са шкоднікам арганізаваная наступным чынам. Школьнае самакіраванне, якое мае сродкі з добраахвотнага падаткавання вучняў, ухваліла вылучыць пэўную суму на знішчэнне хрушчоў. Арганізаваў скупку гэтых шкоднікаў і плаціць за кілаграм хрушчоў па 70 грошаў.

Асобныя класы і дзеці цешацца, бо маюць магчымасць зарабіць пару грошаў, якія для найбяднейшых маюць вельмі вялікае значэнне. Самакіраванне нічога не будзе дакладаць, бо сабраных хрушчоў скупляюць гадоўцы курэй».

Ад гэтага года паэтку **Ганну Новік** польскія ўлады пасадзілі ў вілейскую турму, дзе жанчына знаходзілася два гады.

### 1948

У горадзе працуюць дзве сярэднія школы і вячэрняя школа працоўнай моладзі. У іх – 966 вучняў. У чэрвені ў школе №1 адбыўся першы пасляваенны выпуск.

У Вілейцы нарадзіўся **Генадзь Варанцоў** – дзяржаўны дзеяч, міністр юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад 1997 года да 2001.

Адкрылі бібліятэкі ў Кузьмічах, Касцяневічах, Забар'і, пасёлку Партызанскім, Рускім Сяле.

У вёсцы Варонічы ствараюць калгас. А яго старшынёй становіцца паэтка **Ганна Новік**.

У Вілейскай бальніцы пачаў працаваць ураджэнец вёскі Жаўткі, пазней вучоны з сусветным імем **Мікалай Маліноўскі** – хірург, прафесар Першага Маскоўскага дзяржаўнага медуніверсітэта імя Сечанава, акадэмік Акадэміі навук СССР і Расійскай Акадэміі навук, галоўны рэдактар часопіса «Хірургія». Працаваў да 1951 года.

У Расіі нарадзіўся **Барыс Цітовіч** – мастак, які цяпер жыве на Вілейшчыне ў вёсцы Забродддзе і стварыў там музей Першай сусветнай вайны.

На заводзе «Буддэталі» з'явіліся сталярны і мэблевы цэхі.

### 1960

Пасля скасавання Маладзечанскай вобласці Вілейка – у складзе Мінскай.

Вілейская школа №1 стала большай: дабудавалі левае крыло.

Савецкія ўлады зачынілі і разрабавалі царкву Раства Прасвятой Багародзіцы ў вёсцы Мільча. Храм аднавілі праз 33 гады.

У вілейскай спартыўнай школе адкрылі аддзяленне акрабатыкі.

Год завяршыўся ўводам у строй лініі электраперадач Маладзечна-Вілейка і трансфарматарнай падстанцыі «Вілейка».

### 1972

Віляйчанка **Таццяна Мамай** становіцца чэмпіёнкай Еўропы ў сінхронных скачках на батуце сярод юніёраў. Яе рыхтаваў трэнер вілейскай спартыўнай школы **Пётр Зайцаў**.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за поспехі ў вытворчасці і продажы збожжа, цукровых буракоў і працоўную доблесць ва ўборцы ўраджаю дырэктару саўгаса «Любань» **Яўгену Мірановічу** прысвоілі званне Героя Сацыялістычнай Працы з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Серп і Молат».

У Старадарожскім раёне нарадзіўся **Алег Бегунец** – старшыня Вілейскага райвыканкама ад студзеня 2019 года.



Карціна Барыса Цітовіча «Шлях з вайны ў мастацтва», прысвечаная Уладзіславу Страмінскаму.

### 1984

У Вілейку прыязджае жыць і працаваць мастак **Эдуард Мацюшонак**. Ён і сёння выкладае выяўленчае мастацтва ў гімназіі «Логас», кіруе студыяй выяўленчага мастацтва, ладзіць выставы.

У Вілейцы пабудавалі аўтастанцыю. З таго часу будынак не бачыў вялікага рамонту. І толькі сёлета 20 снежня ўрачыста адкрылі рэканструяваны аўтавакзал.

У Забродддзі з'явіўся Парк Памяці. Пісьменнікі **Васіль Быкаў**, **Алесь Адамовіч** і **Рыгор Паплаўскі** ў гэтым годзе пасадзілі тут першыя дрэвы.

Пабудавалі інтэрнат Вілейскага рамонтнага завода на 232 месцы.

### 1996

Пры Вілейскім Палацы культуры ствараюць народны вакальны гурт «Сухвецце».

У газеце «Наша Ніва» друкуюць першыя вершы віляйчука **Аляксея Чубата**.

Набыла моц дамова «Аб парадку выкарыстання і ўтрымання радыёстанцыі «Вілейка». Згодна з ёй, на радыёвузел ў вайсковай часці 49390 у Вілейцы не павінна быць больш за 250 расійскіх вайскоўцаў.

### 2008

Вілейскі тэатр Палаца культуры атрымаў званне народнага.

Супрацоўнікі РАНС зруйнавалі тры будынкі былога міжраённага скурвендыспансера ў Куранцы.

У краязнаўчым музеі адкрылася паслуга «Горка!» для маладых, якія хочуць справіць вяселле ў беларускіх традыцыях.

Народны артыст Беларусі **Міхаіл Казінец** сустрэў сваё 70-годдзе на радзіме. У Вілейскім Палацы культуры ён даў канцэрт.

Выйшла першая кніга пра вілейскае мастацтва – «Мастацкія скарбы Вілейскага краю». Аўтар – настаўніца выяўленчага мастацтва **Святлана Чабатар**.

Жыхару вёскі Абадоўцы Мікалаю Уладыку прадстаўнікі Польскай амбасады ўрачыста ўручылі пасведчанне ветэрана Войска Польскага.

Пайшоў з жыцця беларускі дзеяч і ветэран вайны, падпаручнік Войска Польскага, жыхар вёскі Лёпаўшчына **Янка Каляда**.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.

● КАЛЯНДАР

**27 СНЕЖНЯ**

**1927.** Заключаная дамова аб абмене палітычнымі вязнямі паміж Польшчай і СССР.

**1934.** Персія змяніла назву на Іран.

**28 СНЕЖНЯ**

**1920.** Скончыліся баявыя дзеянні Слуцкага антыбальшавіцкага паўстання. Доўжыліся адзін месяц.

**1961.** Нарадзіўся беларускі пісьменнік і пчаляр **Мікола Папека**. У 1979 годзе скончыў Алёхнавіцкую сярэднюю школу ў Маладзечанскім раёне. Жыве на Брэстчыне.

**29 СНЕЖНЯ**

**1968.** Заснаваны маладзечанскі завод металаканструкцый, адзін з найбуйнейшых у Еўропе заводаў па вырабе металічных будаўнічых канструкцый.

**30 СНЕЖНЯ**

**1904.** У Маладзечне нарадзіўся **Зэлік Аксельрод**, яўрэйскі савецкі паэт, перакладчык. Брат мастака Меера Аксельрода.



**31 СНЕЖНЯ**

**1918.** Нямецкія войскі пакінулі Вільню.

**1983.** Пачала працу Ігналінская АЭС.

**1990.** Пачала дзейнічаць другая лінія Мінскага метрапалітэна.

**2009.** Закрыты апошні бок Ігналінскай АЭС.

**1 СТУДЗЕНЯ**

**1919.** У Смаленску абвешчана ССРБ – Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь.

**1937.** У вёсцы Шапавалы на Валожыншчыне нарадзіўся **Станіслаў Багданкевіч**, беларускі палітык, эканаміст, доктар эканамічных навук, прафесар.



**1919.** Заснаваная Віленская беларуская гімназія.

**1999.** Пачалося абарачэнне еўра – агульнаеўрапейскай валюты.

Падрыхтаваў
Мікола ГАЙДУК.



На тое, каб зрабіць макет, сышло каля месяца.

# Вучні зрабілі драўляны макет Радашкавіцкага замка, які знішчыў Пётр I

**Вучні Радашкавіцкай сярэдняй школы зрабілі праект па замку, які быў у мястэчку больш за 400 год таму. Праектам кіравала настаўніца матэматыкі Ларыса Булда.**

### Пачалося з артыкула ў «РГ»

**Ларыса Булда** выкладае матэматыку ў Радашкавіцкай сярэдняй школе. Яна стала ініцыятарам стварэння макета Радашкавіцкага замка. Ідэя з'явілася пасля гістарычнага артыкула «Як Радашкавічы страцілі цікавы будынак, але займелі шанец вярнуць з нябыцця замак» у «Рэгіянальнай газеце» напрыканцы кастрычніка.

– Я пераехала ў Радашкавічы з Мінска. Трэба было адаптавацца, бо ў іншым выпадку я тут не змагла б жыць. Трэба было палюбіць Радашкавічы, гэта можна зрабіць, калі даведаешся іх гісторыю.

Упершыню Радашкавіцкі замак згадваецца ў інвентары за 1549 год. Ён знаходзіўся ў валоданні вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста. Замак месціўся паміж рэчкамі Вязынкай і Гуйкай, недалёка ад месца, дзе яны зліваюцца ў большую раку Рыбчанку. У інвентары было апісанне замка, а гісторык архітэктуры Тамара Габрусь зрабіла графічную рэканструкцыю. Да нашага часу Радашкавіцкі замак не захаваўся.

Пасля артыкула пра замак у «РГ» Ларыса прапанавала дзецям зрабіць праект «Таямніца зніклага замка». Над ім разам з настаўніцай працавалі вучні трох класаў. У дзяцей розныя зацікаўленасці, таму кожны мог паказаць замак са свайго пункта погляду.

### Макет, кніжкі і малюнак

У рамках праекта з'явіўся не толькі драўляны макет замка, а і яго выявы ў 3D. Камп'ютарныя тэхналогіі выкарыстоўвалі многія вучні. Зрабілі храналагічныя стужкі, якія можна ўжываць на ўроках па гісторыі Беларусі. Вучні стварылі асобны сайт: інфармацыя па персаналіях, успаміны пра Радашкавіцкі замак у інвентарах, архівах.

Для макета драўлянага замка бралі запалкі і зубачысткі. Галоўная праблема была ў суадносінах памераў. Дзецям дапамагаў сталяр **Ігар Булда**, але асноўную працу выканалі вучні.

Дзеці зрабілі электронную кніжку «Гісторыя няшчаснага кахання», якую можна купіць у інтэрнэце за шэсць рублёў. Цяпер яны назбіралі ўжо 50 рублёў. Яшчэ **Паліна Гавака** і **Валерыя Бухцілава** намалявалі замак акварэллю і гуашшу.

**Аліна Быліна** і **Кацярына Мароз** змайстравалі дзве лялькі – Барбары Радзівіл і Жыгімонта Аўгуста. Касцюмы рабілі па эскізах адзення 16 стагоддзя, якія знайшлі ў інтэрнэце. Ім дапамагала настаўніца па працоўным навучанні **Алена Ураціл**. Гісторыя кахання Барбары і Жыгімонта захапіла і іншых вучаніц – рабілі лялькі з гліны і пластыліну, а таксама кніжку «Казанне аб Чорнай даме» з аб'ёмнымі малюнкамі па гэтым матыве.

Дзеці працавалі над сваімі праектамі па Радашкавіцкім замку на занятках у суботу, частку рабілі дома.

### Як зацікавіць дзяцей гісторыяй праз матэматыку

Ларыса распавядае, што ўсе дзеці працавалі з аб'ёмамі і прапорцыямі. Гэта важны элемент у матэматыцы, а звязаць тлумачэнне цяжкай тэмы з гісторыяй – гэта цікава і настаўніку, і вучням.

Яшчэ перад стварэннем праекта дзеці вывучалі інвентар, дзе спрабавалі знайсці прозвішча сваіх продкаў. Ларыса ўспамінае, што менавіта з гэтага атрымалася зацікавіць вучняў. Настаўніца кажа, што дзеці самі прапаноўвалі ідэі і як іх рэалізоўваць.

– Дзеці робяць тое, што ім падабаецца. Але ў той жа момант вырашаюць іншую задачу. Напрыклад, дзяўчына ляпіла фігурку, перагледзела шмат выяў і працавала з аб'ёмамі. Ці даследаванне па гісторыі – чаму знік замак? Аказалася, што яго знішчыў Пётр I.

Вучні кажуць, што не плануюць звязваць жыццё з гістарычнай адукацыяй, хоць і працавалі над вялікім гістарычным праектам. Ларыса адзначае, вучням усё роўна цікава беларуская культура і гісторыя.

– Такая хваля, што ўсе хочуць ісці ў IT. Гэта зразумела, – дзеліцца Булда.

Ларыса адзначае, што сёлета ў дзяцей шмат мерапрыемстваў па гісторыі. У Беларусі праходзіць год малой радзімы, таму ў школах ладзяць імпрэзы па гісторыі. Вучні Ларысы Булды актыўна ўдзельнічаюць у іх са сваімі праектамі па замку.

– У нас ёсць планы па мерапрыемствах да года малой радзімы, але мы вырашылі размаўляць на іх пра Радашкавічы і пра гісторыю мястэчка.

### Што далей?

Праект яшчэ не закончыўся. Ларыса тлумачыць, што ёсць верагоднасць стварэння карты мястэчка, аднак не ведае, калі будзе над гэтым працаваць.

– Баюся перагарэць, але гэта падштурхоўвае зрабіць добра. Калі ёсць складанасці, значыць, ты правільна рухаешся.

Ларыса ўпэўненая, што ў Радашкавічах захаваная вялікая гісторыя, якую можна развіваць і пра яе расказваць.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**


У адной з залаў музея.

# Музей адзначыў 35-годдзе

СМАРГОНЬ

**У канцы лістапада ў Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі зладзілі святочную вечарыну з нагоды яго 35-гадовага юбілею.**

Прысутныя даведаліся, што спачатку экспазіцыя размяшчалася ў будынку кальвінскага збору, цяперашнім касцёле Святога Міхаіла Арханёла. Тады меркавалі стварыць у Смаргоні першы ў краіне музей батлейкі. Былі прапановы аб стварэнні беларускага народнага тэатра. Калі храм перадалі вернікам, выставачная зала пераехала на вуліцу Кутузава.

Тагачасныя работнікі – дырэктар **Марыя Масевіч**, галоўны захавальнік фондаў **Надзея Маркава**, навуковы супрацоўнік **Святлана Чагадаева** – назапашвалі гістарычны матэрыял, ладзілі навуковыя экспедыцыі па Смаргоншчыне, папаўнялі экспанатамі музейныя фонды.

**У выніку на сёння створаныя 15 музейных калекцый, у якіх налічваецца больш за 16 тысяч адзінак экспанатаў.**

Другую частку мерапрыемства прысвяцілі слаўнаму земляку, заслужанаму дзеячу культуры БССР, Ганароваму грамадзяніну Смаргоні, арганізатару і кіраўніку Смаргонскага цымбальнага аркестра **Аляксандру Дзяругу**.

**На прэзентацыі сваімі ўспамінамі падзяліліся Соф'я Лазар, Ірына Гаева, а таксама Уладзімір Церабун – ініцыятар праекта «Памяці маэстра».**

У завяршэнні вечарыны прагучалі музычныя кампазіцыі ў выкананні аркестравай групы цымбальнага аркестра імя Аляксандра Дзяругі.

**Арына САМАРКІНА, вучаніца 8 «А» класа смаргонскай сярэдняй школы №6.**

# Чараўніцтва пад Новы год

СМАРГОНЬ

**У рамках дабрачынных акцый казачныя героі з ясляў-сада №13 павіншавалі дзяцей з сацыяльна-педагагічнага цэнтра, з малазабяспечаных сямей, дзяцей з інваліднасцю з надыходзячым Новым годам і Калядамі.**

Былі карагоды вакол ёлкі, яркія касцюмы і добры настрой. Вершы, песні, тэатралізаваныя сцэнкі дапамаглі дзецям акунуцца ў свет чараўніцтва, казкі, яркіх эмоцый і незабыўных уражанняў. Але галоўнымі ўсё ж сталі цёплая атмасфера і добразычлівасць.

Дзеці расказвалі вершы Дзеду Марозу, падзяліліся сваімі сакрэтамі і марамі.

Дзед Мароз і Снягурка пажадалі выхаванцам здароўя, паспяховай вучобы і выканання жаданняў.

Прыемна ўнесці сваю лепту ў тое, каб жыццё дзяцей стала больш камфортным і светлым.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ, намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ясляў-сада №13 Смаргоні. Фота забяспечанае аўтарам.**


Фотасесія са Снягурачкай.

# Дзённік мамы трэцякласніцы. Паўгоддзе заканчваем пад гукі беларускай дудкі



**Першае паўгоддзе навучальнага года для трэцякласніцы Варвары заканчваецца пад гукі беларускай дудкі, навагодні ранішнік і нядрэнныя адзнакі.**

Так-так, у трэцім класе вучні ўжо атрымліваюць адзнакі. Часам – добрыя, часам – не вельмі. І тады Варвара крыху сумуе. Не таму, што мама сварыцца. Проста трошкі крыўдна. А маміну тэорыю пра тое, што школьныя адзнакі ніяк не ўплываюць на паспяховасць у далейшым жыцці, яна ведае добра.

У канцы другой чвэрці школьныя музыканты зладзілі святочны канцэрт. Гучалі там і цымбалы, і баяны, і піяніна, і, вядома ж, дудкі. Адну п'есу – песеньку Санта Клаўса – Вара выконвала сольна, а другую – беларускую народную «Ой за рэчкай, за ракой» – з аркестрам дудароў. Якраз дарэчы прыйшлася вышыванка, што мама прывезла ёй з Украіны. Вельмі пасавала да дудкі.

Навагодні ранішнік сёлета правялі раней, чым звычайна. 21 снежня Варвара адтанцавала і адспявала з аднакласнікамі каля навагодняй ялінкі. За што атрымала ад Дзеда Мароза каробку ласункаў. Аднак на гэтым падарункі не скончыліся. Бо ёсць у нас яшчэ ліст Дзеду Марозу, у якім дзіця просіць сабе кніжку. А каб казачнаму дзеду было прасцей, паглядзела ў інтэрнэце, колькі гэта кніжка каштуе і дзе яе можна замовіць. А касцюм карнавальны ў школу адмыслова не куплялі. І тут выручыла вышыванка. Пасля навагодняга ранішніку мы пафатаграфаваліся ці не ва ўсіх фотазонах, якіх у школе штогод шмат. Праўда, фатаграфавалася больш мама з Юляй. Варвара не асабліва любіць гэты занятак.

Удзельнічаем у школьных алімпіядах. Нядаўна была па беларускай мове. Не ведаю, што там з вынікамі, пакуль не абвяшчалі. Але пасля алімпіяды Вара доўга ўзрушалася, як гэта яе аднагодкі не ведаюць, што такое «кава».

Вывучылі ўсю табліцу множання і дзялення. Таму дамашняя работа па матэматыцы цяпер робіцца хутчэй. Няма асаблівых праблем і з мовамі. Вара ўжо прывыкла да таго, што ў выхадныя ў нас – інтэнсіў. Робім усе вядомыя на тыдзень урокі. Атрымліваецца аж да серады. Затое на працоўным тыдні крыху лягчэй і маме, і Варвары.

На зімовых канікулах мелі мы адну традыцыю – катацца з вялізнай лясной горкі каля Ільі. Але пакуль, гледзячы на надвор'е, пакатушак не атрымаецца. Хіба што на ровары.

А яшчэ на канікулы Варвара захацела пахадзіць у школьны лагер. Там абяцаюць цікавую праграму з гульнямі, басейнам, культпаходамі і дыскатэкамі.

**Аксана ЯРАШОНАК. Фота аўтара.**


Варвара прымярае вышыванку, прывезеную з Чарнігава.

Важней за ўсё ў вобразе немак – камфорт.

Фота de-online.ru.

# Як немкі даглядаюць сябе

**Асаблівасцю немцаў многія называюць дакладнасць і пунктуальнасць. Як гэтыя асаблівасці адбіліся на жанчынах і чаму можна навучыцца ў немак?**

## Зручнасць і камфорт

Нямецкіх дзяўчат выхоўваюць незалежнымі і прагматычнымі. Таму на першым плане для іх уласны камфорт і зручнасць. Высокія абцасы, нязручныя спадніцы – усё гэта праходзіць міма, калі жанчына не адчувае сябе ў гэтым так, як хацела б.

Разам з тым немкі строга трымаюцца дрэс-кода, калі ён ёсць. Офісныя ўборы будуць выглядаць акуратна і да месца.

**Разам з тым яны не стануць аддаваць шмат часу на тое, каб замарочвацца з вобразамі, калі ім самім гэта не вельмі важна.**

Зручнасць і камфорт – галоўныя прыярытэты, якімі кіруюцца немкі пры выбары адзення і вобразаў.

Але калі вам пашчасціць наведаць вячэрняе ўрачыстае мерапрыемства, вы ўбачыце нямецкую жанчыну ва ўсім ззянні.

**Калі глядзець на натоўп у Германіі, то яго стыль можна апісаць як практычнасць і камфорт.**

Аб'ёмныя рэчы і ў мужчын, і ў жанчын, стрыманыя колеры, зручны абутак. Многія любяць насіць шалікі. Дарагім акцэнтам можа быць сумка.

**Жанчыны з мінімумам або ўвогуле без макіяжу, але з укладкай. І заўсёды ўборы да месца і дарэчы.**

## Спартыўная форма

Немцы клапоцяцца пра сваё здароўе. Для гэтага неабходна высыпацца, правільна харчавацца і весці актыўны лад жыцця. Роварная прагулка ўсёй сям'ёй, пешы паход, заняткі ў спартыўнай зале або бег па раніцах – усё гэта не толькі спрыяе добраму самаадчуванню, але і дапамагае трымаць сябе ў форме.

**Дзякуючы актыўнасці немкі і ў сталым узросце выглядаюць стройнымі і часам маладзейшымі за лічбы ў пашпарце.**

З узростам яны набываюць больш статусныя рэчы і агулам выглядаюць настолькі стыльна і годна, што немагчыма адарваць вачэй.

## Мінімум дэкору

Няпроста знайсці немку ў штодзённых абставінах, якая б злоўжывала дэкаратыўнай касметыкай. Магчыма, тое, што нямецкія жанчыны не трацяць час на макіяж, і дазваляе ім не спазняцца?



Фота russianingermany.blogspot.com.

Але разам з тым у немак ёсць свой асаблівы шарм. Што яны робяць, каб дамагацца яго, і чаму можна павучыцца ў жанчын з Германіі?

У многіх немак адчувальная скура. Яна патрабуе адмысловых сродкаў, прычым у цёплы і халодны перыяд года яны розныя. Таму абавязковыя сродкі – тлустыя крэмы і маскі для адчувальнай скуры. Тут важна правільна вызначыць тып скуры і абраць менавіта тыя сродкі, якія вам падыходзяць.

Сапраўды, без базавага догляду і абавязковых рытуалаў прыгажосці захапленне дэкаратыўнымі сродкамі не прынясе жаданага выніку. Прыгажосць твару пачынаецца са сну, правільнага харчавання, піцця, актыўнасці і правільных руцін па доглядзе. Ужо на гэту аснову можна ўскладаць дэкор.

**Немкі пільна даглядаюць валасы. Сродкі, якія робяць локаны пышнымі і паслухмянымі, могуць займаць асноўную частку касметычнага бюджэту.**

Прычоска – гэта абавязковая частка вобразу. Наведаць цырульніка раз на месяц і знайсці раніцай час на ўкладку – абавязковая частка рытуалу прыгажосці.

Сапраўды, часам акуратная прычоска, якая пасуе да твару, – гэта ўсё, што трэба для дасканалага вобразу. Праверце самі: адзін і той жа вобраз без макіяжу, але з добрай укладкай глядзіцца нашмат больш выйгрышна, чым з поўным макіяжам, але з неакуратнымі валасамі.

**Эмілія ХВОЯ.**

# Што чакае вас у новым годзе

**Новы 2020 год нясе перамены, навіны і прыемныя моманты. На што варта звярнуць увагу кожнаму са знакаў усходняга гараскопа, чытайце далей.**




### Пацук

Віншуем, надыходзіць ваш год! У год Белага Металічнага Пацука будзе шанцаваць усім гаспадарам. Фінансавыя справы палепшацца. Калі клапаціцца пра здароўе, яно вам аддзячыць. А большасць праблем будзе вырашацца, калі прыкласці да гэтага хаця б нязначнае намаганне.

> **Для многіх стане прыемнай навіной, што ў вас будзе нашмат менш прычын, каб нервавацца.**

Для вас год стане выдатнай магчымасцю, каб пачаць сваю справу. Ёсць штосьці, пра што даўно марылі, але баяліся прызнацца нават самі сабе? Не хапала сродкаў або ведаў? Сусвет будзе спрыяць, каб усё ў вас атрымалася, хапайце сваю ўдачу за хвост!

Дома вас чакаюць утульнасць і спакой. Пастарайцеся больш часу ўдзяляць на сямейныя паездкі і прыгоды, асабліва з дзецьмі. Калі ў вас пакуль няма пары, верце, што гаспадар года мае для вас сюрпрыз. Захавайце сваё сэрца для таго, з кім можаце заставацца сабой.

### Бык

Год нельга назваць для вас простым. Але ўсе складанасці будуць прыносіць плён. Абавязкова займайцеся самаразвіццём і ўдасканаленнем. Моўныя курсы, фізічныя нагрузкі – смела рухайцеся да ідэальнага вобразу сябе, і вас чакаюць прыемныя вынікі.

Пэўныя перамены чакаюць вас у сферы грошай і кар'еры. Магчыма, вы зменіце працу або атрымаеце павышэнне. Што б ні адбывалася, імкніцеся захаваць з усімі добрыя адносіны. Старайцеся не прымаць важныя рашэнні адразу, слухайце парады і абдумвайце наступствы.

У сям'і старайцеся паводзіць сябе паважліва і планаваць наперад. Напрыклад, адпачынак або буйныя пакупкі. У канцы лета вас можа напаткаць рамантычная прыгода. Хутчэй за ўсё, вам нават давядзецца рабіць выбар, звязаны з рамантычнымі адносінамі.

### Тыгр

У 2020 годзе вас чакае шмат падзей і на працы, і ў асабістым жыцці. За такім кругаваротам вам трэба паспяваць атрымаць асалоду ад важных імгненняў. Не прымайце непрыемнасці блізка да сэрца – хутка вы зразумееце, што ўсё гэта драбяза.

Калі хочаце памяняць працу, дачакайцеся восені. Тады вас можа напаткаць прывабная прапанова. У сямейным жыцці вам спатрэбіцца цяпло ад блізкіх. Пастарайцеся быць бліжэй да родных, прабачце ім нязначныя памылкі. Калі вы шукаеце другую палавінку, ваш шанец будзе ў канцы года.

### Трус

Вас чакаюць вялікія перамены. Новыя сябры, захапленні, праца, дом – усё гэта чакае вас, калі вы самі захочаце. На працы могуць быць прыемныя перамены, з-за якіх можа спатрэбіцца пераезд. Вас чакаюць грашовыя папаўненні. Дапамажыце чалавеку ў складаным становішчы, і атрымаеце прыемны сюрпрыз.

Старайцеся часцей збірацца з роднымі і сябрамі. На адным з такіх мерапрыемстваў час чакае сустрэча з чалавекам, ад якога будзе ўражанне, нібы вы знаёмыя ўсё жыццё. Не ўпусціце яго.

### Дракон

Вас чакае пакручасты год, у якім будуць як свае складанасці, так і магчымасці для неверагоднага ўзлёту. Самым важным стане ўмацоўваць сувязі і заводзіць знаёмствы.

> **Не саромейцеся прыняць дапамогу, калі ў вас будзе ў ёй неабходнасць.**

Калі вам будзе падавацца, што дома ад вас патрабуюць многага, прыміце гэта як выклік, якога варта дасягнуць. Вам хочуць дабра, і вы можаце дасягнуць таго, што ад вас чакаюць. Прычым вы самі будзеце ў захапленні ад выніку. Калі вы шукаеце каханне, звярніце вясной увагу на чалавека, які падаецца вам поўнай супрацьлегласцю.

### Змяя

Год спрыяльны для вас найперш для фінансаў, нездарма ж вы столькі працавалі. Ваша гіперактыўнасць можа быць незразумелай Пацуку, але вас нішто не зможа спыніць. І ў выніку вы ўбачыце, што нягледзячы на ўсе перашкоды ваша актыўнасць прынясе плён.

У сям'і можа быць напружаная абстаноўка. Тут важна разабрацца ў прычынах, каб атрымаць новыя і лепшыя ўзроўні ўзаемаразумення. Вам спатрэбіцца дапамагаць каханым людзям. Знайдзіце для іх час, каб яны кожны дзень разумелі, чаму вы для іх настолькі важныя.

### Конь

Вас чакаюць заслужаныя ўзнагароды. Добра, калі вы зможаце накіраваць гэтыя сродкі на тое, чаго даўно хацелі. Добра, калі знойдзеце і час, і магчымасць для падарожжа.

> **Паспрабуйце нарэшце зрабіць тое, аб чым марылі.**

У каханні ваш саюз стане мацнейшым, калі вы зможаце даверыцца другой палавінцы. Калі вы чакаеце каханне, спыніце актыўнасць. Як толькі вы перастанеце думаць пра новыя знаёмствы, яны самі вас знойдуць.

### Каза

Накont кар'еры ў вас усё будзе складвацца выдатна. Магчыма, узрасце працоўная нагрузка, але новыя задачы прынясуць і задавальненне, і прыбытак.

> **У другой палове года вы зможаце свой досвед перадаць іншым і таксама на гэтым зарабіць.**

Важнай тэмай можа стаць дзіця. Узаемаадносіны з партнёрам будуць не самымі бязвоблачнымі, але спрэчкі дазволяць вам лепш зразумець адзін аднаго. Калі вы шукаеце каханне, паглядзіце на чалавека, які побач з вамі. Магчыма, ваш лёс проста перад вамі.

### Малпа

Вас чакае маса ўражанняў, і вы будзеце проста купацца ў каханні. Дома можа спатрэбіцца рамонт або ўвогуле пераезд. У працы трэба будзе паказаць, наколькі вы яе цэніце, каб атрымаць прыемныя сюрпрызы.

Пастарайцеся часцей бачыцца са сваякамі, пагутарыце з імі. Сямейныя сувязі павінны стаць мацнейшымі. У каханні вас чакае поспех незалежна ад таго, маеце вы пару або толькі шукаеце.

### Певень

Вас чакаюць прыемнасці і падарункі. Накont грошай варта быць вельмі пільнымі – падумайце двойчы, перш чым укладаць буйную суму.

У сям'і спатрэбіцца адшукаць паразуменне наконт вашых амбіцый.

> **Працягвайце рабіць сваю справу, плённыя вынікі ўсё скажуць за вас.**

Калі вы шукаеце каханне, няшмат шанцаў адшукаць яго ў надыходзячым годзе. А вось новых сяброў знайсці цалкам верагодна.

### Сабака

У гэты год лепш не мяняць многае ў жыцці, а атрымліваць асалоду ад таго, што ўжо ёсць. Восенню могуць узнікнуць непаразуменні з начальствам, але гэта хутка вырашыцца. Набывайце жыллё або ўкладайце ў новую справу пакуль не варта.

У рознагалоссях з каханым чалавекам старайцеся не гарачыцца і памятаць, за што вы аддалі сваё сэрца менавіта яму. Калі вы яшчэ не сустрэлі каханне, вас чакаюць актыўныя пошукі. Але лепш не спяшацца рабіць выбар.

### Свіння

У гэты год вам прыйдзецца папрацаваць. Усё залежыць ад вас – і ў працы, і ў каханні. Будзьце ініцыятыўнымі і выконвайце ўсё, што трэба.

> **Цягам года сачыце за здароўем. Старанна выконвайце працоўныя абавязкі.**

Шмат часу спатрэбіцца аддаць на дзяцей. Шчыра і часта кажыце другой палавінцы ўсё добрае, што пра яе думаеце. Няхай ад гэтага вырастуць крылы ў абаіх!

**Эмілія ХВОЯ.**

# На бой выходжу з акуратным макіяжам і прычоскай

**«Жыццё – гэта рынг, чарада перашкод; альбо перамажаш ты, альбо адолеюць цябе. І гэта звязана не толькі з боксам», – лічыць 18-гадовы маладзечанскі баксёр і кандыдат у майстры спорту Паліна Субаткоўская.**

Шмат каму з нас цяжка ўявіць далікатную дзяўчыну ў гэтым спорце. На што яна можа быць здольная? У яе сіл не хопіць! А нагрузка? Адразу з'яўляецца мноства пытанняў, але прыклад Паліны ставіць усё на свае месцы. За тры гады яна дамаглася таго, на што многім спартсменам спатрэбілася б шмат гадоў.

**– З чаго пачалося тваё захапленне боксам?**

– Калі я першы раз прыйшла ў залу, нават не магла ўявіць, што мяне зацягне. Абрала гэты спорт, бо ён загартоўвае мяне, робіць мацнейшай як фізічна, так і маральна. На рынг выходзіла нават з траўмай нагі і тэмпературай 39 градусаў. Кожная трэніроўка – гэта крок да перамогі і дасягнення мэты. Мы робім гэта, у першую чаргу, для сябе. Цалкам аддаючыся, атрымліваеш вынік і станоўчыя эмоцыі.

**– Як сябры і сваякі ставяцца да твайго выбару і дасягненняў?**

– Калі пачала займацца, мне ўсе казалі, што гэта глупства і ў мяне нічога не выйдзе. Бацькі стараліся падтрымліваць, але ведала, што ў глыбіні душы яны былі супраць. У школе цікавіліся, адпускалі на трэніроўкі, ганарыліся перамогамі.

**– Які з турніраў быў для цябе самы складаны і значны?**

– Міжнародны турнір па ўшу памяці Дзмітрыя Гвішыані ў студзені 2019 года. Пачала рыхтавацца за чатыры месяцы, кожны дзень займалася па 6-7 гадзін. Акрамя гэтага трэба было скінуць вагу. Практычна нічога не ела і за дзень да трэніроўкі страціла прытомнасць. Да таго ж вельмі нервавалася, бо там сабраліся самыя лепшыя спартсмены, а ў мяне не было сіл нават трымаць рукі. Але ў гэтым баі выйграла накдаўнам – мой працўнік датэрмінова зняўся з бою.

**– Як лічыш, ці можна выхаваць характар байца?**

– З аднаго боку, характар, як і талент, у чалавека ад нараджэння. Але выхаваць байцоўскія якасці можна пастаяннай працай над сабой і дысцыплінай. Хто не падае, той не ўстае, а значыць, не ідзе далей, і ўстаць трэба адразу ж. Так ва ўсім. У той жа час на рынгу ніколі не забываю, што дзяўчына. На бой выходжу з акуратным макіяжам і прычоскай. Шкада, што ніхто не бачыць пад пальчаткамі мой манікюр. У першую чаргу дзяўчына і не павінна «звярэць». Трэба заўсёды заставацца жаноцкай, нават у спорце.

**– Ці ёсць у тваім жыцці яшчэ што-небудзь акрамя бокса?**

– У дзяцінстве малявала, займалася плаваннем, спартыўнай гімнастыкай. Люблю чытаць. Цяпер асноўным захапленнем стаў макіяж. Па прафесіі бравіст-візажыст. І гэта праца з'яўляецца крыніцай вялізнага натхнення і матывацыі.

**– Раскажы пра свае бліжэйшыя планы.**

– Максімальна павысіць свой узровень у індустрыі прыгажосці, а яшчэ напісаць кнігу пра жыццё, пра тое, як дасягнуць сваіх мэтаў. Што тычыцца спорту, цяпер старанна рыхтуюся да чэмпіянату Еўропы па ўшу ў Маскве, які пройдзе ў красавіку 2020 года.

**– Па якіх прынцыпах ты жывеш?**

– Цалкам аддавацца сваёй справе. Прыкладам для мяне з'яўляецца Мухамед Алі. Калі трэба было зрабіць 50 адцісканняў, ён не лічыў, а рабіў іх да таго часу, пакуль не станавілася балюча, і толькі тады пачынаў адлік. Я заўсёды імкнуся прытрымлівацца гэтага правіла.

**– Якія парады ты хацела б даць чытачам?**

– Галоўнае, пастаўць мэту і імкнуцца да яе ажыццяўлення. Напішыце сабе план дзеянняў, але памятайце, што запасны варыянт, як сказаў Арнольд Шварцэнегер, негатыўна адбіваецца на выніку. Навучыцеся сябе дысцыплінаваць у кожным сваім дзеянні і ўчынку. Устаньце з канапы, перамажыце сябе і сваю лянноту, выйдзіце і зрабіце тое, што дробнымі крокамі прывядзе да мары. Толькі тыя, хто працуе да апошняга, у канчатковым выніку будуць узнагароджаныя жыццём.



Фота забяспечана Палінай СУБАТКОЎСКАЙ.

Паліна Субаткоўская.

**Кацярына АКУШКА,**
**навучэнка гуртка «Школа журналістыкі».**

## Лядовую пляцоўку ў Астраўцы пабудуюць у рамках дзяржінвест-праграмы

У Астраўцы пабудуюць лядовую пляцоўку за кошт сродкаў дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы на 2020 год. Акрамя пляцоўкі, са сродкаў дзяржпраграмы выдаткуюць сродкі на астравецкі аўтавакзал.

У інвестыцыйную праграму-2020 уключаныя 107 аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі. На іх выдаткуюць 581 мільён рублёў.

**Паводле belta.by.**

## Мядзельская каманда перамагла на турніры «Узыходная зорка. NEXT»

У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры 15 снежня прайшоў чарговы футбольны кубкавы турнір «Узыходная зорка. NEXT».

Сярод гульцоў 2010 года нараджэння ўдзельнічалі тры каманды: з Мядзела, Гарадзеі і Паставаў. У выніку каманда ФК «Мядзел» заняла першае месца і заваявала галоўны кубак турніру.

У турніры паміж удзельнікамі 2008 года нараджэння згулялі каманды ФК «Дрывяцін» з Браслава, «Мядзел», і дзве з «ДЮСШ-2 БАТЭ» з Барысава. Тут перамагла першая барысаўская каманда.

**Паводле narachanka.by.**

## Ашмянскія лёгкаатлеткі ўзялі медалі на нацыянальных спаборніцтвах

Ашмянкі ўдзельнічалі ў «Калядных стартах» па лёгкай атлетыцы.

**Дар'я Місюкевіч** і **Карына Несцерава** прадстаўлялі Гарадзеншчыну ў эстафеце. Несцерава двойчы паднялася на п'едэстал – другое месца ў бегу на 60 метраў і першае ў змешанай эстафеце.

**Паводле osh.by.**

## Астравецкія гімнасткі ўзялі тры залатыя і два бронзавыя медалі

Кіраўнік і адзін з трэнераў школы **Дыяна Нарыўская** распавяла, што астравецкія гімнасткі выступалі на Усебеларускім турніры па эстэтычнай групавой гімнастыцы «Сільфіда. Навагоднія падарункі 2020». На спаборніцтвах дзяўчаты заваявалі тры залатыя і два бронзавыя медалі.

Спаборніцтвы праходзілі ў некалькіх узроставых катэгорыях. Самыя маленькія ўдзельніцы – да шасці гадоў – за старанне, упартасць і смеласць былі ўзнагароджаныя залатымі медалямі. Сярод іх былі тры астравецкія каманды «Арасары», «Цімелія» і «Фенікс».

Сярод гімнастак 6-8 гадоў выхаванкі Астраўца прадэманстравалі добры вынік: каманды малодшай і старэйшай падгруп «Лоры» і «Грыфон» заваявалі бронзавыя медалі.

**Паводле ostrovets.by.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Далонь і пальцы рукі, складзеныя так, каб імі можна было зачэрпнуць або ўтрымаць што-небудзь.
3. Сухое пячэнне з клятчастым адбіткам на паверхні.
5. Частка цела ў чалавека і жывёл, у якой знаходзяцца страўнік, кішэчнік, селязёнка і іншыя органы.
6. Хрысціць крыжам.
7. Зацішная, прыгожая, маляўнічая мясцовасць.
9. Забаўная выхадка, востры дасціпны выраз.
10. Парадкавы лік прадмета ў радзе яму падобных.
13. Прадмет або жывая істота, прынесеныя ў дар бажаству паводле абрадаў некаторых рэлігій.
14. Правоз тавараў ці пасажыраў з аднаго пункта ў іншы праз прамежкавыя пункты.
16. Месца зняволення, будынак, дзе ўтрымліваюцца асобы, якія прыгавораныя судом да пазбаўлення волі, або тыя, што знаходзяцца пад следствам.
17. Нямнога, крышку, чуць.
18. Здольны цячы.
19. Выражае прасторавыя адносіны: ужываецца пры абазначэнні прадмета, асобы, на верхнюю частку якіх ці паверх якіх накіраванае дзеянне.
21. Спіс, сістэматызаваны пералік прадметаў.
22. Асоба каманднага саставу арміі і флоту, якая мае воінскае званне ад малодшага лейтэнанта да палкоўніка ўключна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Тонкае валакно, якое ў выглядзе адростка адыходзіць ад галаўнога і спіннога мозга і з'яўляецца састаўной часткай разгалінаванай сістэмы, здольнай служыць сродкам кіравання дзейнасцю арганізма.
4. Адсутнасць адзінства ў думках, поглядах.
5. Пачуццё смутку, душэўнай прыгнечанасці, туга, маркота.
8. Тонка ссуканая пража, якая выкарыстоўваецца для шыцця, вязання.
11. Ваза для маскіроўкі кветкавага гаршка.
12. Ядавітае рэчыва, якое згубна дзейнічае на жывы арганізм
14. Астранамічны аптычны інструмент для назірання за нябеснымі свяціламі.
15. Адзін з варыянтаў тлумачэння якіх-небудзь падзей, фактаў.
17. Устройства ў саставе вылічальнай сістэмы, якое прызначанае для ўводу інфармацыі ў сістэму і выводу інфармацыі з яе.
20. Урадавы штамп у пашпарце на права ўезду ў дадзеную дзяржаву, выезду з яе ці праезду па яе тэрыторыі.
23. Умацаванае на дрэўку палотнішча рознай формы і афарбоўкі з надпісамі, упрыгожаннямі, якое служыць эмблемай дзяржавы, арганізацыі ці вайсковай часці, злучэння, карабля.
24. Найменшая колькасць прысутных на сходзе якой-небудзь арганізацыі, неабходная па закону або статуту для прызнання сходу правамоцным.



## Адказы на крыжаванку з №51

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Майстар. 5. Забава. 6. Фарны. 10. Жырандоль. 12. Мілавідны. 13. Сястра. 14. Жнівень. 16. Пінск. 18. Механік. 21. Зрух. 22. Прэмія. 23. Ілюзія. 25. Бусел.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Філаматаў. 2. Вірус. 4. Жанр. 7. Мадальнасць. 8. Куцця. 9. Шыркі. 11. Каляды. 12. Малако. 15. Знічка. 17. Страва. 19. Задача. 20. Еўропа. 23. Ідылія. 24. Забыццё. 26. Сякера. 27. Слон.

## ГАРАСКОП НА 27 СНЕЖНЯ – 2 СТУДЗЕНЯ



**АВЕН.** Пастарайцеся нічога не прасіць у таго, хто вышэй за вас па пасадзе або ўзросце. Вы і самі зможаце атрымаць, што захочаце, калі праявіце волю і рашучасць. Паспрабуйце кіравацца сваімі ведамі псіхалогіі. Кіруйце людзьмі і сітуацыямі.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам прынясе поспех усё, што звязана з вашымі талентамі. Калі спатрэбіцца, вы лёгка атрымаеце веды, якіх не хапала. І знойдзеце супольнасць па інтарэсах. Вам будзе спрыяць поспех у любых конкурсах.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам спатрэбіцца паспяваць усюды і адразу. Будзе складана пазбегнуць памылак, але вы пастараецеся. Вас чакаюць вельмі прыемныя эмоцыі і ўражанні. Так што рыхтуйцеся атрымліваць асалоду.



**РАК.** У вас не атрымаецца пазбегнуць службовых абавязкаў, якія б цуды вынаходніцтва вы б ні прыдумалі. Таму выканайце ўсе службовыя задачы як мага хутчэй, каб у свята гуляць напоўніцу. Не трэба спадзявацца, што нешта даробіце дома – там вас чакаюць іншыя задачы, якім спатрэбіцца ваша ўвага.



**ЛЕЎ.** Для вас перыяд пройдзе спакойна і лагодна. Вы даўно ўсё спланавалі і ведаеце, чаго хочаце ад святаў. Вас будуць чакаць розныя кампаніі, і будзе складана знайсці час для ўсіх. Але прыйдзецца рабіць і работу, таму знайдзіце для яе час.



**ДЗЕВА.** Могуць адбыцца канфлікты з дарагімі сэрцу людзьмі. Паспрабуйце згладзіць вуглы і запаліць іншых святочным настроем. Святы пройдуць насычана і з агеньчыкам, так што настройце сябе на навагодні цуд. Сустрэчы з сябрамі змогуць аднавіць сілы і напоўніць энергіяй.



**ШАЛІ.** Наколькі б моцна вы ні былі б упэўнены ў сваёй праваце, спатрэбіцца лічыцца з іншымі і менш крытыкаваць іншых. Магчыма, узнікне неабходнасць кагосьці абараняць. Дома ўсё будзе зразумела і спакойна.



**СКАРПІЁН.** Вам будзе падавацца, што жыццё кідае вам выклік, які вы мусіце прыняць. Але сіл на тое, каб адказаць, у вас не знойдзецца. Выратуе тое, што знаёмыя, поўныя пазітыву і магчымасцяў, выручаць у самых няпростых сітуацыях. Пазітыўныя гутаркі вернуць веру ў сябе і паспрыяюць навагодняму настрою.



**СТРАЛЕЦ.** Правільна размяркуйце сілы, каб тыдзень прайшоў гладка і гарманічна. Эканомце душэўныя запасы, ваша цеплыня спатрэбіцца блізкім.



**КАЗЯРОГ.** Вы возьмеце на сябе вялікую нагрузку. Калегі будуць шчаслівыя, што столькі задач зможаце закрыць вы адны. Паспрабуйце накіраваць энергію на тое, каб зрабіць блізкіх шчаслівымі.



**ВАДАЛЕЙ.** Удзяліце ўвагу падарункам, якімі будзеце адорваць сваякоў і сяброў. Няхай у кожным з іх будзе свая цеплыня.



**РЫБЫ.** Важны перыяд, каб паказаць каханне і любоў. Не прапусціце магчымасць адарыць пяшчотай не толькі самых блізкіх, але і дарагіх сэрцу людзей.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | 9 | | | 5 | 3 | | |
| | | 3 | | | | 7 | 5 | 8 |
| | 7 | 1 | | 3 | | | | |
| | | | | 8 | 6 | 5 | | 9 |
| | 9 | 2 | | | 4 | | | |
| | | 6 | | | | | | 1 |
| | | | 4 | 2 | | 6 | | |
| 2 | | | | 9 | | | 8 | 7 |
| | | 7 | | | | 4 | 2 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by




● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Які самы запамінальны падарунак на Новы год ці на Каляды вы атрымалі ў дзяцінстве?



**Таццяна Грышкевіч, гаспадыня, Маладзечна:**
– Білеты ў цырк. Тады ў першы раз там і пабывала. Уражанняў было шмат! А яшчэ муж на Новы год зрабіў прапанову.



**Іна Казакевіч, сакратар, Вілейка:**
– Мне падарылі тамагочы. Корпус быў празрысты, блакітны пластык у выглядзе яйка. Шэсць гадаванцаў з магчымасцю выбару адразу двух. Тады гэта лічылася вельмі крутой цацкай.



**Сяргей Захарэвіч, фатограф, Маладзечна:**
– Калі шчыра, не памятаю. Напэўна, не было нічога такога, каб адклалася ў памяці. А сам карціну на палатне падарыў.



**Анастасія Збераноўская, загадчыца аддзела, Вілейка:**
– У восем гадоў я атрымала вуду і сястру. З гадоў пяці хадзіла з татам на рыбалку, вельмі падабалася гэта захапленне. Але тады сваёй вуды не было. Калі ж тата падарыў мне яе, мы нават выдрапалі на ёй маё імя. Гэта было прыемна, мая маленькая радасць.



**Ганна Валейка, гаспадыня, Маладзечна:**
– Такога сюрпрызу, каб запомніўся, назваць не магу. Рэакцыя мужа на мой стала незабыўнай. Два гады таму паклала пад ялінку настолку. Ён ледзь не расплакаўся ад расчаравання: настолка не танная. Вырашыў, што выбрала лухту. А потым некалькі месяцаў гулялі ў гэту лухту кожны дзень.



**Яўген Крук, прараб, Маладзечна:**
– Нешта дарылі, не запомніўся ніякі падарунак. Затое брату буду дарыць шкляную бутэльку ў форме чэрапа. У яго свой міні-бар у кватэры, хай залівае туды самы моцны напой.



**Вікторыя Навіцкая, адміністратар інтэрнэт-праектаў, Вілейка:**
– Цяжарная лялька Барбі. Прыблізна памятаю, як яна выглядала. Як усе барбі, але толькі цяжарная.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

## У віляйчанкі на падворку расцвілі маргарыткі і пачалі вылазіць цюльпаны



ВІЛЕЙКА

**Нягледзячы на тое, што хутка Новы год, прырода не радуе нас зімовым надвор'ем.**

Анамальная цеплыня прывяла да таго, што на падворках нашых чытачоў расцвітаюць кветкі.

Днямі чытачка з Вілейкі паведаміла, што ў яе кветніках расцвілі маргарыткі і вылазяць цюльпаны. У гародзе з'явілася зеляніна, а на кустах – пупышкі.

**Аддзел інфармацыі.**





## Чытайце праз тыдзень:

● У першым нумары новага года чакайце наш фірменны каляндар. І няхай кожны дзень у ім будзе шчаслівы!

## 28 снежня, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 6 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -23,4°С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +7,1°С у 2011 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 6,6 мм у 2015 годзе
Паводле meteoinfo.by.

## Чалавек без газеты – як дрэва без лісця. Падпішыся на «РГ!»

**Год заканчваецца – падпіска не спыняецца. Афармляйце яе з любога месяца!**



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**
- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**
- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная) 632122 (ведамасная падпіска).*


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№52 (1287) 27.12.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РолПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 2115. Падпісана ў друк у 9.00 26.12.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.